ТАРАС ГУШЧА
(ЯКУБ КОЛАС)

# У ЦІХАЙ ВАДЗЕ



ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
МЕНСК—1925

# Соцкі падвёў

## I

Важна ходзіць па мястэчку вураднік, пакручваючы рыжыя вусы. Пры баку ў яго целяпаецца трапло-шабля, чырванеюць шнуры і наплечнікі і блішчаць на сонцы наваксованыя боты. Ён толькі што прыехаў на службу; у яго галаве мітусяцца тысячы думак,—думак аб тым, як зьвясьці крамолу. Яму толькі што данёс стражнік, што ў вёсцы Галадранцы нядаўна зьявіўся падазрэнны чалавек. А раз чалавек падазрэнны, то ён, напэўна, соцыялісты або, па меншай меры, забастоўшчык. І вураднiцкая галава строіць замыславатыя пляны, тчэ хітрыя сеці, у якія павінна заблутацца крамола. Яму здаецца, што ён выкрыў „праступнае саобчаства“, захапіў лісты, рэвольвэры й бомбы, і ўсё гэта даставіў да начальства. Яму даюць павышэньне, пасылаюць у горад, робяць акалодачным, потым прыставам, а потым... і пашоў наш вураднік у гару, як цыган па драбінах на неба. Пры гэтым вураднік аж засьмяяўся сам сабе і ляснуў рукамі па сваіх тоўстых кумпяхох.

— Гм! ты кажаш „падазрыцельны“ чалавек?—пытаў вечарам вураднік сваю правую руку—гарбатага стражніка.

— Бясспрэчна падазрыцельны!—сказаў стражнік таемным, паніжаным голасам.

— І ты яго бачыў?

— Бачыў, гаспадзін вураднік. І цікава тое, што ён—малады чалавек і астрыжаны! Звычайна ўсе крамольнікі кудлатыя і абарваныя. А гэты нішто сабе адзеты, у чорнай кашулі, падпяразан шырокім поясам... Гатоў у заклад ісьці, што гэта самы настаяшчы „сіцылісты“.

— А ты ня пытаўся аб ім? Не наводзіў справак у мужыкоў?

— Дык вам мужык так і скажа, асабліва галадранскі мужык. Гэта—гадаўё!

— Калі зьявіліся проклямацыі ў Галадранцы?

— На тэй нядзелі ў пятніцу.

— Вось што, браце,—пачаў, памаўчаўшы, вураднік голасам начальства: — заўтра ты паедзеш у Галадранку і навядзеш дакладныя спраўкі аб гэтым рэволюцыянэры. Мы яму пакажам свабоду! Зайдзі да соцкага, Рамана Камлюка. Але ня надта выкладай яму ўсё на талерку: трэба помніць, што ён—галадранец, забастоўшчык.

II

— Скажы, брат,—пытаўся адзін худы, высокі, як цапільна, галадранскі селянін, гаворачы „брат“ усёй грамадзе,—што гэта за чалавек? пэўна „сіцылісты!“

— Гэтакі ён „сіцылісты“, як ты, напрыклад, маёй кабыле дзядзька,—адказаў яму Андрэй Падгорны, чалавек лёгкі на язык.

Усе зарагаталі.

— А ты, мусіць, знаешся на „сіцылістых“, як мая сьвіньня на пастох?

— Разумны напаў на разумнага,—сказаў стары Базыль, не выпушчаючы з зубоў люлькі.

— Нашлі за што сварыцца, — умяшаўся Карусь з-пад карчмы:—Андрэй гаворыць праўду. Ці-ж „сіцылісты“ пойдзе да папа або будзе лаяць сам сябе?

Галадранскі соцкі, Раман Камлюк, замысьліў, як відаць, нешта хітрае, бо засьмяяўся сам сабе ў доўгія вусы, але нікому не сказаў, чаго засьмяяўся, і пашоў да хаты.

Да сялянскай грамады падыходзіў Янка Дудар. Яму было надта весела, ён сьпяваў на ўсю вуліцу:

А ты, Янка, не зважай
На кажух падраны...

Ногі ня слухалі Янкі, а йшлі, як хацелі: адна ўлева, другая ўправа, а сам Янка падаваўся то ўзад, то ўперад, то ў адзін бок, то ў другі.

Прадам бульбу, прадам жыта,
Абы было шыта-крыта...

зачаў Янка другую песьню.

— Глядзі, каб не падашукалі!—прасьцярог яго Андрэй Падгорны.

— Чаго ты сьмяешся?—накінуўся на яго Янка:—куст ты альховы! Ты знаеш, хто я? Я—дэмократ і забастоўшчык першай гільдыі... Хлопцы! браткі мае родныя! Хадзем бунтавацца...

— А вунь вураднік!—пастрашыў яго стары Базыль.

— Дзе ён?!—крыкнуў Янка, азіраючы вуліцу: — падайце мне яго сюды!

Людзі пацяшаліся, а Янка, згарнуўшы кулакі, біў імі па паветры, мясіў нагамі пясок, як-бы там ляжаў вураднік, а ён яго мясіў нагамі.

— Вось падла, Янка! глядзі ты, што ён вычварае.

Невядома, што зрабіў-бы Янка са сваім вураднікам, каб ня прышла жонка. Яна трымала пад пахай мешалку.

— Вось, брат, папаўся!—жартавалі сяляне.

— Сьпяваў, што „няма каму бараніць“,—бараніся-ж сам.

— А каб ты смалы напіўся, гад!—крыкнула жанчына, і мешалка мільгнула ўгары і гладка прыстала да сярэдзіны худога Янкавага цела.

— Што робіш?—крыкнуў, нібы сярдзіта, стары Базыль на Дударыху:—ня бачыш ці што? Ён зямлі і свабоды дабіваецца людзям, а яна яго мешалкаю!

Мешалка паддала Янку сілы, і ён даволі борзда стаў на ногі.

— Арыштую!—крычаў ён на жонку:—не палагаецца насіць аружжа! У арыштанскія роты аддам па 25 стацьці!

— Так, так, Янка!—падтрымоўвалі яго суседзі.

— Ваенна-палявым судом судзіць буду!—бушаваў Янка:—Я—забастоўшчык, а ты хто? Чорнасоценец! От хто ты!—гаварыў Янка сваёй жонцы, ужо ідучы да дому.

## III

— Скажы мне, Раман, што гэта ў вас за чалавек зьявіўся?—пытаў стражнік у соцкага.

— А ці я ведаю?

— Можа-ж чуў што пра яго?

— Чуць то чуў, ці мала што людзі гавораць.

— Прызнавайся, Раман, нечага адвільваць. Што ты чуў?

Раман агледзіўся навокал і ціха сказаў:

— Соцыялісты!

— Ну?!

— Такія рэчы гаворыць, што ў Сібір саслаць і то мала. Дае кніжкі й лісты раскідае. Вось пабач!

І Раман дастаў з-за пазухі проклямацыю, якую ён знашоў два гады назад, будучы ў павятовым горадзе на першых выбарах.

У стражніка так і заблішчалі вочы.

— А мужыкі яго слухаюць?

— Дзе там слухаюць!—цара лае.

— А што ён, прымерна, казаў?

— Казаў, што наш цар—дурань.

— Цыц!—прамовіў стражнік і азірнуўся.

— А дзе начуе ён?

— Усюды. Раз нават у папа начаваў.

— Як-то ў папа?

— Абмануў; сказаў, што яго консісторыя паслала і нейкі знак паказаў.

— Заўтра ўначы чакай нас тут з дзесяцкімі. А калі ён уцячэ—ты адказваць будзеш.

Стражнік вышаў, а Раман, стоячы, весела пасьмейваўся.

## IV

Ціха, асьцярожна краўся вураднік са стражнікам да вёскі Галадранкі. Вёска ўжо спала. Адзінокі месяц плыў над ёю, як срэбраны круг. Аброшая вербамі, спакойна цякла рэчка каля самых хат, і дробныя хвалі, як жывыя, пераліваліся й блішчалі на месяцы.

Соцкі й два дзесяцкіх стаялі на двары, чакаючы „начальства“. Прыехаўшы да соцкага, вураднік распытаўся аб „сіцылістым“. А гэты „сіцылісты“ спаў сабе, як пшаніцу прадаўшы. Ён начаваў у папа. У вурадніка пранеслася ў галаве думка арыштаваць і папа за пакрываньне крамольніка. Але перадумаў і знашоў, што ня варта, бо хітры соцыялісты ня толькі папа, а й чорта абмане. Апрача таго, поп скора ня ўздымаецца і ўцякаць яму няма куды.

Вураднік, стражнік, соцкі і дзесяцкія ўзышлі на ганак папоўскага дому і пастукалі.

Поп вышаў босы, накінуўшы на сябе шырокі каптан.

— У чым дзела?

— У вас, бацюшка, праступнік начуе!—сказаў вураднік.

— Ня можа быць!

— Аб гэтым будзем талкаваць потым... зволіце паказаць, дзе ён.

Поп пабялеў і стаяў, як укапаны, толькі губы яго дрыжалі, і ён шаптаў:

„Ад вешчы, ва цьме прахадзяшчыя, ад беса палудзеннага“...

Увашлі ў пакой, дзе спаў „сіцылісты“. А таму й гора мала: сьпіць сабе на баку, толькі носам сьвішча й храпе, як пшаніцу прадаўшы. Вураднік прыставіў да яго каравул, а сам запусьціў руку ў яго дарожную раменную торбу і выцягнуў цэлую жменю лісткоў. Нікому і ў галаву ня прышло пaглядзець, што гэта былі за листкі.

А „сіцылісты“ ўсё сьпіць—проста вураднік ня ведае, як арыштаваць соннага чалавека. На помач яму прышоў соцкі. Ён папароў соцыялістага, як мядзьведзя,—кіем. Схапіўся „сіцылісты“, вырачыў вочы—і рукою пад падушку, дзе ляжаў рэвольвэр. Тут на яго накінуліся стражнікі і дзесяцкія. Усе зьляпіліся ў адзін клубок і некальки часу мітусіліся па пакоі. У канцы адзін дзесяцкі вырабіўся з гэтай кучы, папляваў на рукі і, скамандаваўшы сам сабе: „Ну, Сымон! вазьмі па праўдзе!“— згроб і стражніка і „сіцылістага“, падняў іх „на жывот“, потым спрытна падставіў ножку і аблажыў абодвух.

— Каторы тут з вас „сіцылісты?“—пытаў ён, седзячы наверсе.

Стражніка аслабанілі, а „сіцылістага“, якому вураднік палічыў сваім абавязкам даць у зубы за спраціўленьне,—зьвязалі.

— Як вы сьмееце?—крычаў „сіцылісты“.—Я член „саюзу рускага народу“.

— А гэта што?—паказаў вураднік на лісткі й рэвольвэр.

— Цягні яго, хлопцы!

— „Яко ісчэзае воск ад ліца агня“,—маліўся поп.

## V

„Сіцылістага“ вялі па пустой вуліцы. Цікавы месяц выплыў з-за белай хмаркі і, глянуўшы на гэтую процэсію, мусіць засароміўся людзкога глупства, бо зараз-жа схаваўся ў другой

хмарцы; ды яшчэ сучка старога Базыля была сьведкай комэдыі, што разыгралася ў Галадранцы.

Усю дарогу думаў ураднік, якую карысьць на сьвеце прыносяць людзям ураднікі.

„От“, думаў ён: „усе сьпяць, а ты валачыся цэлую ноч, бойся кожны момант за сваё жыцьцё. Ласьне тут ёсьць штонебудзь труднае—дастаць сабе ў лоб кулю? А якая падзяка? Ну, прыстаў можа падаць руку і заклікаць на шклянку гарбаты“.

Але дзесьці, на дне душы яго, варушыліся другія думкі, і яму прадстаўлялася цэшка і прыстаўскія наплечнікі. Стражнік, соцкі, дзесяцкія і сам „сіцылісты“ таксама думалі,—кожны на свой фасон. Але трудна залезьці ў чужую душу і ведаць, хто што думае. Усе маўчалі.

## VI

— А ты добра зрабіў, што дагадаўся зайсьці да мяне!— такімі словамі сустрэў прыстаў ураднікa.—Бачыш, сюда прысланы член „саюзу рускага народу“...

— Ваша высокаблагародзьдзе! Я арыштаваў і прывёў да стану „соцыялістага“, аб чым і маю чэсьць асабіста далажыць вам!—перабіў ураднік прыстава.

— Дзела добрае. Дзе арыштаваў?

— У Галадранцы, ваша высокаблагародзьдзе!

Тут прыставу нешта цюкнула. Ён глянуў на ўрадніка. Той стаяў і пазіраў на прыстава так, як-бы ён, ураднік, схапіў з неба зорку або японскага мікаду забраў у палон.

— Пашпарт у яго ёсьць?

— Не спраўляўся.

— Дзе арыштаваны? Пазваць сюды!

Ураднік кінуўся на двор.

Соцкі і дзесяцкія ўвялі „сіцылістага“.

— Як дапушчаеце вы такое безабразьзе і сваявольства вашых падлеглых?! Я самому губарнатару жалавацца буду! Я—член „саюзу рускага народу!“ Вот мае дакуманты!

— Зьвініце,—сказаў прыстаў „сіцылістаму“,—вышла абмылка.

Прыстаў грозна зірнуў на ўрадніка. Ураднік апусьціў вочы і зірнуў на стражніка, стражнік—на соцкага.

Соцкі стаяў бокам і сьмяяўся ў рукаў.

# КАНТРАКТ

*З жыцьця пінчукоў*

## I

Хата старасты Рамана Карэня была паўнютка людзей. Сюды часта такі зьбіраліся паляшукі пагутарыць аб сваіх справах. Апрача таго, Раман і сам часта склікаў сялян, каб аб'явіць ім волю валаснога начальства.

Вось і сягоньня Раман паклікаў паляшукоў на сход. Чуць толькі сьцямнела, пачалі зьбірацца паляшукі. Скора іх націскалася поўная хата. Захрыпелі цыбукі, застукалі люлькі аб тоўстыя кіпці, і ў хаце падняўся такі дым, што ня можна было пазнаць трэцяга чалавека, хоць яго нос і можна было абмацаць рукою.

Покі зьбіралася „законнае чысло“ людзей, каб сход мог мець сілу, паляшукі гулі, як рой пчол. Адзеты яны былі—хто ў доўгія халаты, хто ў кажухі з шырокімі, як засланка, каўнярамі. Усе яны былі ў лапцях, з голымі грудзьмі, хоць на двары крапіла зіма. Адны сядзелі, другія стаялі. Нізкі, з рыжаю бародкаю, Сымон Тачына жартаваў з Алёнаю, стараставаю жонкаю, покі яна ня сунула яму, сьмяючыся, качаргу ў рыжую бараду. Кандрат Лата пакепліваў з Дзямяна Трубы, як яго поп спавядаў летась і закамандваў за грэх прывезьці тры вазы дроў.

— Які ты грэх зрабіў, Дзямян?

— Што ступіў, то і саграшыў,—сказаў Дзямян.

Стараста ўжо некалькі раз падымаўся на ўслон, пытаў, ці ўсе сабраліся, лаяў Кастуся Рылку, што той доўга ня йшоў.

— Ну, ужо ёсьць больш як тры чвэрці гаспадароў,—сказалі сяляне.

— Дык будзем рабіць сход,—пачаў старшыня.—Грыгор Бугай, Пятрусь Грэнка, Янка Вясёлы і Васіль Кукса хочуць узяць ад вобчаства ў арэнду рэчку і тоні.

„Арандатары“ стаялі асобна. Твары іх былі сур‘ёзныя.

Як толькі стараста змоўк, паляшукі, як па камандзе, загаманілі на ўсе лады. Тут былі ўсякія галасы: адзін трашчаў, як трашчотка, другі вырываўся рэзка, пpаразьліва, як жалезны клін, трэці вёў тонка, чацьверты хрыпеў, як люлька старастава бацькі, пяты сыпаўся гарохам, шосты гуў чмялём, а ўсё гэта зьлівалася з басам якога-небудзь Данілы.

Але ўрэшце ўзяў верх голас Васіля Куксы. Ён так стараўся—вырачыў вочы, махаў капшуком і люлькаю.

— Якая цяпер у чорта рыба?—крычаў Кукса:—хоць-бы на невад адышло.

— На колькі год бераце ў арэнду?

— На шэсьць. Але...

— Колькі арэнды ў год?—пытаў стараста ў сходу.

— Пятнаццаць рублёў!—гукнула большая палавіна паляшукоў.

Праўда, некаторыя крычалі, 18, другія—12, а самі арандатары стаялі за дзесяць.

— Дык як-жа будзе?

— Няхай бяруцць за дванаццаць,—сказаў Мікіта Крынічны.

— Усе згодны?

— Згодны!

— Калі так—сказаў стараста,—то будзем пісаць кантракт. Толькі-ж не разыходзьцеся, мужчынкі.

## II

А тымчасам галоўнае было ўсё ўперадзе: дастаць аркуш паперы для кантракту, асадку, чарніла, пяро. Гэта ўсё такія рэчы, якіх паляшукі ня ўжывалі з тых часоў, як паўстаў сьвет. Стараста разаслаў ганцоў ва ўсе куты вёскі Ямішч. Зьмяты аркуш паперы дасталі ў Бэркі. Па чарніла і асадку прышлося йсьці за дзьве вярсты да старога Ірша. Прашла добрая гадзіна часу, покі ўсе патрэбныя рэчы былі раздабыты.

Цяпер на самае важнае месца выступіла пытаньне: хто-ж будзе пісаць кантракт. Усе паляшукі, у тым ліку і стараста, пісаць ня ўмелі. А калі яму трэба было заверыць якую бумагу,

то ён браў сваю пячатку, трымаў яе над запаленым карчом або лучынаю, покі на ёй не нарастаў здаровы слой куру, і прыкладаў да паперы, папляваўшы на тое месца, дзе павінна быць пячаць. І „Яміцкі сельскі стараста“ ня раз стаяў дагары нагамі.

Паляшукі пачухалі патыліцы. Але яны зараз-жа пачалі таўчы пад бок Міхалку Варэйку.

— Ідзі, Міхалка, ты-ж расьпісваўся ў воласьці.

— Расьпісацца магу, а кантракт чорт яго напіша,—упіраўся Міхалка.

Тут Міхалку падхапілі пад рукі, двое цягнулі яго за полы каптана, некалькі чалавек пхалі і такім парадкам дамарослага пісара цягнулі праз усю хату, як мурашкі хрушча. Другія паляшукі расступіліся і Міхалку пасадзілі за стол. Стараста зьняў лямпу, паставіў у гаршчку на стол, а каб яна ня хісталася, насыпаў у гаршчок ячменю.

На момант у хаце зрабілася ціха. Усе пазіралі на „пісара“.

А „пісар“ сядзеў важна і аглядаў пісарскія прылады. Канец пяра быў зломаны, у чарнільніцы не хапала палавіны рыльца. „Пісар“ апусьціў пяро ў чарніла, паднёс пасьля да лямпы і стаў прыглядацца.

— Ці-ж гэта чарніла?—саладуха нейкая!—сказаў ён.

Хата затраслася ад сьмеху. Сьмяяліся не з таго, што сказаў Міхалка—усім было сьмешна бачыць Міхалку пісарам.

Міхалка ўжо хацеў кінуць пісарства і вылезьці з-за стала.

— Дык што пісаць?—спытаў ён злосна.

Падняўся яшчэ большы сьмех.

— Ось я табе зараз скажу,—і стараста пастараўся зрабіць надта мудрую міну. Ён скрывіў на бок галаву, завярнуў вочы ў самы лоб, а аднэй рукою чухаў сківіцу. Яму давялося чуць некалькі раз, як чыталі кантракты, але ён не хацеў паказаць гэтага: няхай знаюць паляшукі, што ён дыктуе сам з свае галавы.

— Пішы!—сказаў стараста да Міхалкі:—Мы, ніжэйпадпісаныя сяляне вёскі Яміцч, скліканыя нашым старастам...

— Чаго ты паляцеў, як вол у гіз!—крыкнуў Міхалка.

Але старасьце далей ляцець ня было куды: хоць забі, далей ні слова ня помніў.

Аж холадна зрабілася старасьце: пачаць то пачаў, але чым скончыш? як тут выкруціцца?

Міхалка тымчасам прыглядаўся да пісаньня. Перш-на-перш ён пасадзіў вялізную „варону“ на паперы. А як гэта капка непатрэбна, то ён размазаў яе рукавом і пачаў выводзіць каракулі, высалапіўшы язык і сярпом скрывіўшы яго на правай палавіне роту.

А стараста думаў. Цяпер ён думаў папраўдзе, але галава была як саганец—ніводнай думкі ня выцісъуў з яе бедны стараста.

— Мы... мы... мы... ліжа... іжа... падкасаныя...—Міхалка ўпёрся носам у кантракт.

— А ты праўду кажаш,—загаварыў „пісар“, ня зводзячы вачэй з кантракту: што-ж я напісаў?

— Ніжэйпадпісаныя,—сказаў стараста апаўшым голасам.

— Ага! так, так!

— Прачытаюць у воласьці, яны-ж з гэтага і хлеб ядуць,—разьвясельваў іх арандатар Кукса.

А тымчасам і стараста і „пісар“ не маглі далей зрушыцца з месца, як-бы на сьцяну налезьлі.

Стараста ўставіўся вачыма ў печ, як дурны, і стаяў, а Міхалка ваяваў з „сялянамі“. Чытаў, чытаў, а ў канцы вычытаў:

— Сагане.

Усе зарагаталі.

Старасту асьвяціла ўрэшце добрая думка.

— Ну, і пісар-жа з цябе!—накінуўся ён на Міхалку,—пісаў пісака, што не разьбярэ й сабака... Бадай ты згарэў! Ідзеце, хлопцы, да хаты. Прыедзе пісар, дык і напіша...

# СТАРАСТА

— Ты знаеш хто я? знаеш? Ну, кажы!

— Чаму-ж ня знаю: ты наш стараста.

— Стараста! Я—стараста, ста-а-раста.

Пры гэтым стараста падняў угару палец, уставіўся ў адно месца, як-бы абхопліваючы цалкам усю веліч свайго чыну, свае ўлады, магутнасьці.

Гэты агляд упаіў старасту, галава яго закружылася яшчэ больш, і ён у парываньні нейкай дзікай радасьці і буйства крэпка згарнуў кулак і грукнуў па стале.

Пустая бутэлька падскочыла ўгару і са звонам скацілася пад стол.

— А ты ведаеш, што ёсьць стараста?

Мікіта Булбатка, старастаў прыяцель і сябар па бутэльцы, да якога зварачаўся стараста са сваім пытаньнем, сьцеляпнуўся ўсім целам і з вялікім цяжарам узьняў на старасту вочы. Заміж аднаго старасты яму паказалася па меншай меры з шэсьць старастаў, і Мікіта ня ведаў, якому з іх адказваць.

— Стараста, ну і ёсьць стараста,—прамовіў непаслушным языком Мікіта. Але такі адказ не здаволіў і самога Мікіту.

— Ты выбраны вобчаствам чалавек, значыцца, пастаўлены ад вобчаства,—вось што ёсьць стараста,—паправіўся Мікіта.

Стараста круціў галавою і яшчэ больш насядаў на пытаньне, што ёсьць стараста.

Мікіта зусім зьбіўся з панталыку і ўжо з адчаю сказаў:

— Ты—наша начальства!

— Во! Во! праўду гаворыш,—падхапіў стараста:—то ўжо калі пашло на праўду, то і я скажу табе праўду: ты—самы разумны ў вобчастве! Так гаворыць табе начальства. Люблю я разумных, страх як люблю.

Староста і Мікіта перагнуліся цераз стол і крэпка пацалаваліся. Мужчыны бліжэй падступілі да сяброў; гутарка гэтых выпівак пачынала пацяшаць іх. Сьмяшлівыя вочы Кандрата Гоцкі акінулі мужчын.

— Начальства з розумам цалуецца,—сказаў ён.

— А то-ж я не начальства?!—павярнуў староста малапаслушную галаву ў бок Кандрата.

— Хто-ж гаворыць, што ты не начальства? Хіба ня ведама? Ці ня ты з нас падаткі бярэш?—Староста нізка апусьціў галаву і слухаў, і ў тых мясцох, дзе пацьвярджалася яго начальства, ён здаволена ківаў галавой.

— Ці ня ты гоніш нас на работу?—гаварыў далей Кандрат, а староста зноў скалыхнуў галавою.

— Ці ня ты павесткі нам падпісваеш і завяраеш? На стараставых губах зьявілася шчасьлівая ўсьмешка.

— І ты разумны, Кандрат! ты і Мікіта. Гавары далей!

— Ці не цябе гэта Сальвэсь Кастантынаў гнаў з млёнам праз усю вуліцу?—Тут староста ўзьняў на Кандрата вочы.

— Што?!—спытаў староста. Мучжыны зарагаталі.

— Ці ня ты ў халоднай сядзеў—помніш можа—земскі пасадзіў?

— Маўчаць!!!

— Ці ня ты гэта, як жабрак, нядоімкі зьбіраеш?

— Дурань!—крыкнуў староста:—дурань ты!

— Няхай сабе дурань, а ты—папіхач, якое ты начальства?.. Пхае цябе пісар, пхае старшыня, земскі... хто ня хоча хіба, той ня пхае. Спытай хоць разумнага Мікіту.

Мікіта целяпнуў галавою, хацеў штось сказаць у вабарону старасты, ды нічога ня вышла.

— А што, і Мікіта пацьвярджае, што ты папіхач.

— Мікіта, праўда гэта?—спытаў староста Мікіту. Мікіта нічога ня цяміў; яму цяпер было ўсё роўна; а як адно слова сказаць было лягчэй, то ён і сказаў:

— Праўда!

Мужчыны са сьмеху аж за жываты хваталіся.

— Калі Мікіта сказаў „праўда“, так значыць праўда, бо Мікіта самы разумны ва ўсім вобчастве,—крычаў, рагочучы, стары Грышка.

Стараста грозна ўтаропіўся на Мікіту.

— Праўда?!

— Праўда!

— Ах ты гіцаль! І ты мяне лаеш? Ты, які маю гарэлку піў?

Цяпер Мікіта сьцяміў, што стараста яго лае. А калі чалавека лаюць, то чаго цярпець? Што доўга разьбірацца?

— А-а-а ты ня піў маю гарэлку? каб ты смалы напіўся!— прарваўся ў канцы Мікіта:—жабіч ты! Ты думаеш, калі ты стараста, так ты ў мяне вялікая цаца? Пляваць я на цябе хачу, начхаць табе на галаву! Хрушч ты рыжы! Жабіны начоўкі, падла сьмярдзячая, абармот, п'яніца!.. Акцызьнік ты, во што!..

Стараста і вушам сваім ня верыў. Ён пазіраў асалавелымі вачмі і слухаў, як адчытваў яго Мікіта.

— Ты, ты мяне лаеш?!—устаў стараста, згарнуўшы кулакі:—да ці ведаеш ты, каго лаеш? Мяне, урадовую асобу, пры спаўненьні службовых абвязкаў? Ды я-ж цябе ў Сібір запякаю, з вобчаства вышлю, на дзень у халодную пасаджу! Да ты ведаеш, хто я?.. Людзі, будзьце сьведкамі!

Стараста штосьь надумаўся, вылез з-за стала і, хістаючыся, рынуўся да дзьвярэй. Пераступіўшы парог, ён з усёй сілы грукнуў дзьвярыма. Доўгае крысо яго каптана папала між вушака й дзьвярэй і зашчамілася. Стараста адразу пачуў, што яго нехта трымае.

— Пусьці!—крыкнуў стараста і рвануўся, але крысо моцна было прышчэмлена.

— Пусьці, кажу! Адказваць будзеш за супраціўленьне начальству.

Мужчыны пазіралі ў вакно і поўзалі са сьмеху.

— Мікіта! пусьці, каб цябе жывот схапіў ды ня пусьціў гад печаны!

Старастаў крык далёка нёсься па сялу. На гэты час ішоў з вудамі бацюшка лавіць рыбу. Бацюшка накіраваўся да старасты. Рвануўшыся са ўсёй сілы, стараста адарваў крысо. Ганак быў высокі, і стараста, як клубок, пакаціўся аж пад кузьню.

Убачыўшы бацюшку, стараста не ўстаючы з зямлі, з адарваным крысом, зьвярнуўся да яго:

— Бацюшка, будзь сьведкай, забіць мяне хацелі...

— Стараста, стараста!—прамовіў поп і пашоў рыбу вудзіць.

# ДЗЯЛІЦЬБА

## I

Ну, што ты з гэтымі бабамі зробіш?

Калі ў хаце жывуць дзьве бабы, то ўжо спакою няма.

— Гыр-гыр-гыр! гыр-гыр-гыр!—гыркаюцца яны ад самага раньня.

Адна—капач, тая—мешалка. Адна—гультай, другая—няўмека.

Так і кідаюць адна аднэй на вочы.

А як лягуць спаць, то кожная ўсю ноч шэпча на вуха свайму мужыку,—нагаварвае на другую.

Мужчыны толькі скрыва паглядаюць адзін на аднаго. Але, пакуль-што, маўчаць.

Да дзяліцьбы яшчэ далёка. Дзяліцьба ідзе вось у якім парадку: перш-на-перш выступаюць бабы.

Бабы сварацца год, год з палавінаю, а то і цэлых тры. Мой нябожчык-дзед казаў, што яго нябожчыца-жонка сварылася з яго нябожчыцай-братавай цэлых дванаццаць год!). Наўперад бабы сварацца патроху,—так, гадзіну, дзьве ў дзень.

Потым сварцы адводзіцца больш часу—гадзін 5-6.

Да гэтага часу мужчыны яшчэ маўчаць, набіраюцца толькі злосьці. Мужчыны сварацца часьцей увечар, ці ў сьвяты дзень, бо ў будны часу няма. А бабы тымчасам пачынаюць прабаваць моц сваіх чубоў. Вараць яны ў аднэй печы, але ў асобных гаршчкох. Дастаецца тут і бедным гаршчком.

А ўжо пасьля жанок б'юцца мужчыны.

Каб падзяліцца, яшчэ мала пабіцца адзін раз: трэба пабіцца найменш раз восем, каб разы тры засыхала скурка на

носе, трэба разоў шэсьць абадраць твар ды ліхтар паставіць каля вока, а лоб убраць гузам або і двума. Тады толькі можна лічыць, што права на дзяліцьбу здабыта.

II

Дзякуй богу, што бог сярдзітым людзям не дае многа сілы.

Сымон яшчэ змалку паказаў сваю злосьць. Раз ён завёўся за нешта з сваёй сястрой Марцэляй. Сымон так узлаваўся, што ўкусіў сястру за жывот. А то ўжо быў Сымон дзяцюком. Любіў ён часамі зухнуць. Загнаўшы да Коўны плыты, ён купіў сабе стары афіцэрскі сурдут. Бацька дома і давай прабіраць за гэта Сымона. Сымон кінуў воб зямлю сурдут, пачаў таптаць яго нагамі; потым парваў на сабе кашулю, порткі, залез голы на жорны і сказаў:

— Так пан езус пакутваў!

Мікола ня ўступаў у злосьці свайму брату Сымону. Так, раз ён паехаў на поле па ячмень. Падымалася хмара, грымела. Мікола наклаў воз на борздую руку. Толькі што ён нукнуў на каня,—шусь ячмень з возу! Мікола закіпеў, узлажыў другі раз. Не пасьпеў ён выехаць на дарогу—ізноў бух ячмень з возу!

— То ты гэтак?!—крыкнуў Мікола. Схапіў тут рубель*) і давай малаціць ячмень. Памалаціў, вытрас, салому палажыў на воз і сам сеў.

— Вось ты цяпер раскідайся, пракляты!

Другі раз Мікола пабіў у сваёй хаце вокны, місы, гаршчкі. Нічаму не давала спуску качарга. Пабіўшы ўсё, што можна было пабіць, Мікола стаў сярод хаты і пазірае, што-б яму яшчэ пабіць. Вокны, гаршкі, міскі былі ўжо пабіты. Аж бачыць Мікола—абразы на сьцяне вісяць. Многа іх, штук са дванаццаць. Адзін абраз быў намалёван так, што сьвяты з гэтага абраза пазіраў у вочы. Куды-б ні павярнуўся, а ён на цябе глядзіць. Убачыў Мікола гэтага сьвятога.

— А ты чаго глядзіш? Першы раз бачыш мяне?

І як заняў качаргою сьвятых—пабіў іх у дрэбезгі.

— Што, будзеце пазіраць на мяне?—спытаў Мікола, кончыўшы расправу.

---

*) Рубель—жэрдка для ўціісканьня снапоў і саломы.

Сымон і Мікола сварыліся ўжо гадоў са тры, а за апошнія часы сталі і біцца, а гэта азначала, што скора будзе дзяліцьба.

Сымон і Мікола ў нашым сяле былі тым, чым у горадзе тэатр, толькі што білетаў ня трэба браць: прыходзь сабе, слухай, пазірай, весялі сваю душу.

І Карусь з-пад карчмы кожны вечар стукаў у вакно свайго суседа Базыля.

— Чаго ты?—пытаўся Базыль.

— Хадзем у Сьвіную вуліцу: зараз будзе бой.

Базыль апранаў кажух, браў капшук з люлькай і йшоў на двор. Закурыўшы люлькі, яны йшлі ў Сьвіную вуліцу. Карусь паперадзе, Базыль на два крокі ззаду. У Базыля ў люльцы быў цыбук просты, у Каруся—крывы. Дым з Базылёвай люлькі йшоў згары, а з Карусёвай—зьнізу.

III

А ў Сьвіной вуліцы, каля хаты Сымона й Мікалая, была ўжо цэлая комэдыя.

Тут былі і старыя, і малыя, і бабы, і дзяўчаты.

Галоўнае месца займалі Сымон з Мікалаем. Сварка з першых слоў абяцала цікавы бой. Вакол ваяк стаяла жывая сьцяна народу.

Наперадзе стаяла некалькі чалавек, якія борзда ўмелі зьвясьці Сымона з Міколам. А другія толькі пазіралі. Калі „звадыяшы“ бачылі, што бойка раскідаецца, то тады ўмешваліся яны.

— Эй, Сымон! Як табе ня брыдка? Мікола даў дулю, а ты толькі нос адхіліў!

— Дык я яму дам дзьве!—крычаў Сымон і соваў Міколе дзьве хвігі.

Другі звадыяш пхаў Міколу на Сымона, і бойка гатова!

Але на гэты раз звадыяшам ня было чаго рабіць: Базыль з Карусём—а яны заўсёды прыходзілі толькі к самаму пачатку комэдыі, як якое начальства:—убачылі вось што: Сымон трымаў у руках млён, а Мікола—грамнічную сьвечку. Сьвечка была мала чым менш ад млёна—палкі, якою круцяць жорны. Аказалася, што бой быў у хаце, і Сымон прыпёр Міколу ў куток. А як бараніцца ня было чым, то Мікола і схапіў сьвечку.

што стаяла каля сьвятога Міколы. Мужчыны адабралі ад іх млён і сьвечку.

Нейкі чорт так і цягнуў байцоў аднаго да другога.

Зьляпіліся...

Такая была цікавая бойка, што аж месяц залюбаваўся ёю. Усё сьціхла.

Ужо Мікола быў тры разы на Сымоне і тры разы пад Сымонам, а бой усё ідзе. Патаміліся яны, як пеўні.

— Стой! Стой!—крыкнуў Сымон:—дай абору падвяжу!

У бойцы разьвязалася абора на Сымонавым лапці. Мікола спыніўся.

— Гы-гы-гы!—рагатаў Карусь.

Сымон стаў падвязваць абору, а Мікола стаяў каля яго: чакаў.

— Ну, цяпер!—гукнуў Сымон, паправіўшы лапаць.

Мікола ня даў нават Сымону адсапнуцца і налящеў на яго, як каршун. Сымон прыгнуўся яшчэ больш і схапіў Міколу ўпол так, што ногі ў Міколы апынуліся ўгары, і так спрытна бурканўў Міколу, што той стаў на ногі.

— Чакай, чакай, Сымон!—загаласіў разам Мікола.

І пакуль Сымон агледзіўся, што такое прылучылася, у грамадзе падняўся рогат. Карусь выпусьціў з зубоў люльку, а Базыль выпер рукою шыбу. Усе аж трашчалі ад сьмеху: у Міколы спаўзла ніжняя адзежына.

Нават Сымона праняў сьмех.

— Вось як біцца з Сымонам!—гаварыў ён.

І пакуль Мікола апранаўся, Сымон накладаў у люльку тутун з поглядам чалавека, верх якога быў бясспрэчны.

# КІРМАШ

## I

— Адно-ж ты, Пятруська, ня бауся на кірмашы. Сюды-туды дый да дому. Прыедзь хоць раз, як чалавек.

Кожную нядзельку дзяўбла Кася Пятрусю адно й тое, і Пятрусь іншы раз засярдуе. Яму не падабалася такая апека жонкі,

— Ото, як ты баішся!

Пятрусь сеў ну воз, сарваў сваю злосьць на кані, сьцебануўшы яго пугаю разоў са тры, каб заадно нечага й жонцы задаць страху.

Палавіну дарогі—а гэта будзе вёрст пяць—Пятрусь быў сярдзіты. Падумаць, дык выходзіць, што жонка кажа праўду: ці-ж добра, каб хто спытаўся, прапіваць грошы? І Пятрусь стаў думаць аб тым, як ён ужо раз дваццаць абяцаў жонцы ня піць гарэлкі і заўсёды прыязджаў да дому п'яны; як ён ашукваў яе, прыкідваючыся цьвярозым,—для гэтага ён стараўся хадзіць роўна. Часам яму і ўдаецца зрабіць колькі роўных крокаў, а потым, пазіраеш, гарэлка павядзе ў бок. Тады ён кідаўся на другую хітрасьць.

—Оё-ёй! — стагнаў тады Пятрусь: — от-жа кальнула! Бадай ты згарэла!

Пятрусю рабілася брыдка прад самым сабою ад адных гэтых думак.

— Не, трэба такі кінуць піць,—гаварыў сам сабе Пятрусь і разьвясельваўся.

Прыехаўшы да места, Пятрусь выпраг каня, павесіў яму на галаву торбу з сечкаю і агледзіўся. Усё места было застаўлена вазамі. Сяляне хадзілі ў лапцях і мясілі балота. Каля вазоў снавалі гандляры і гандляркі. Хто прадаваў масла, хто сала.

Тут-жа стаялі цэбры, ражкі, вёдры. Усякага было народу. Былі й такія, што нічога ня куплялі і не прадавалі, а прышлі так сабе „на раздабыткі“. Прыдзе сабе ў краму, патупае, патупае, а як што кепска ляжыць, то й запусьціць „ляшча“. А калі яго лавілі, то ён спакойна гаварыў:

— Колькі гэта каштуе, Малка?

Агледзіўшыся вакол, Пятрусь пашоў рабіць свой абход з мяшэчкам і з торбачкамі пад пахаю. Трэба ўзяць солі, мукі, вотрубей.

Куча народу. У сярэдзіне важна сядзіць рускі, разлажыўшы сваіх багоў. У другой грамадзе народ акружыў жыдка з круцёлкаю і пазірае, як прабаваў хто шчасьця: клаў дзесяткі і грыўні і круціў. Каму пападаўся кубак, каму мыла, каму іншая рэч, а каму, як кажуць, гулá асмáленая.

Трэцяя, яшчэ большая грамада народу стаяла каля дому з вывескаю: „Казенная винная лавка № 67“. Тут былі бабы й мужчыны. Хто выбіваў корак з кварты, з паўкварты, а хто, адвярнуўшыся ад людзей, каб не сароміць іх,—з маленькага кручка. З дваццаць людзкіх галоў было задрана ўгару так, што нос прыходзіўся якраз проці самай сярэдзіны неба. Хто піў з вялікай бутэлькі, той трымаўся сьмела: станавіўся на самае віднае месца, падпіраў аднэю рукою бок і важна цягнуў гарэлку.

А калі хто йшоў з „буслам“,—прад тым людзі расступаліся і давалі дарогу, як якому спраўніку.

## II

За гоманам трудна разабраць, хто што гаворыць. Вот дзьве бабы: адна аперлася на воз з аднаго боку, другая з другога. Абедзьве выпіўшы. Адна гаворыць груба, другая тонка. Мова першай бабы падобна да кароткіх слоў:

— Ды-ды-ды-ды!

Другая сыпала танчэй і яшчэ скарэй:

— Дэ-дэ-дэ-дэ!

На другім возе сядзяць тры гаспадары. Два з іх абнімаюцца й цалуюцца.

— Братка ты мой!—гаворыць адзін:—твой Алесь—золата, а не чалавек.

— Галубок ты мой!—кажа другі:—дальбог я цябе люблю. Каб я жонкі ня ўбачыў, калі ня люблю. Дай сюды тваю морду... во так! Пойдзем яшчэ вып'ем паўкварты.

Два шчырыя сябры злазяць з воза, абнімаюцца, цалуюцца, адзін аднаго падтрымоўваюць і ідуць да манапалькі.

— Га, Пятрусь, і ты тут?—сустрэў Пятруся Карусь Акалот. Вочы яго былі ўжо, як у салавейчыка, а з губы нясло, як з бочкі.

— А вот, як бачыш,—сказаў Пятрусь.

— Ідзі, брат, паглядзі, якога я купіў падсьвінака.

Карусь схапіў Пятруся за рукаў і павалок яго глядзець падсьвінака.

Пятрусь пахваліў гэту маладую асобу і сказаў Карусю, што добра купіў.

— Добра кажаш?

— Вядома, што добра.

— Калі так, то пойдзем у „Порт-Артур".

„Порт-Артурам" звалі хатку, што стаяла разам з крамкаю.

Гэта хатка заўсёды была паўнютка людзей. Там стаяў такі шум, крык і гоман, што аж глушыла. А раз зашоў у „Порт-Артур", то высьці адтуль ня так-то лёгка: ці мала там сустрэнеш добрых людзей?

— Не, не пайду!—сказаў Пятрусь.

— Чалавек! па чарцы!

— Няма, брат, часу,—стаяў Пятрусь на сваім.

— Колькі там таго часу? Паўгадзіны, ня больш. Хадзем!

Пятрусь трохі ўпіраўся, але такі пашоў. „Чарку, дзьве— ня больш", думаў ідучы Пятрусь.

З „Порт-Артура" ён ішоў надта вясёлы і сьпяваў песьні.

III

Вечар быў хмуры. Ні зор, ні месяца.

Ускаціўшыся на воз, Пятрусь завязаў лейцы за аглабіцу і лёг.

Увесь сьвет, здавалася яму, скакаў лявоніху. Калі-ні-калі Пятрусь падымаў галаву, крычаў: „Но, малы!", цмокаў губамі і сьвістаў.

Конь ішоў памалу, як хацеў і кудою хацеў. Раз некалькі зачапіў ён восьсю аб хвою і скінуў атосу. Калёсы сту-

каліся аб карэньне, плюхалі па гразі і каціліся бокам. Такім парадкам пракаціліся яны вярсты тры. У вадным месцы, каб абыйсьці гразь, конь зьвярнуў з дарогі, усьцягнуў калёсы на пень, сарваў са шворна цялежкі і аставіў драбіны з Пятрусём сярод лесу, а сам паклыгаўся з цялежкамі далей.

Паляжаўшы з паўгадзіны, Пятрусь падняў галаву, цмокнуў і крыкнуў:

— Но-о-о, малы, варушыся!

Было ўжо зусім відна, як Пятрусь прачухаўся трохі і падняў галаву.

— Што за ліха? Што гэта? Дзе-ж гэта я? Тфу! тфу! тфу! Згінь, прападзі!

І Пятрусю ўспомнілася ўсё.

— Што я зрабіў?—загаласіў Пятрусь, заламаўшы на галаве рукі.

Стыд перад жонкаю, перад людзьмі, злосьць на самога сябе, на тых, хто выдумаў гарэлку, прапажа каня,—усё гэта зьвязалася ў адзін цёмны клубок.

— Ну, не сабака-ж я, ня гад, не лайдак? Што я раблю найлепшае? Чаму няма агню на гэту атруту людзкую?!

Зьняў Пятрусь драбіны, сеў на пень.

— Што рабіць, што чыніць?

Папрабаваў быў Пятрусь цягнуць да дому адны драбіны і нават працягнуў іх з паўвератня.

— Не! як я пакажуся людзям у вочы? Прапіць каня і самому цягаць драбіны?

Ён звалок драбіны з дарогі і, апусьціўшы галаву, пашоў да дому. Падышоў ён з вярсту, бачыць—стаіць яго конь, зачапіўшыся лейцамі за корань.

— Конік ты мой, залаценькі!—закрычаў з радасьці Пятрусь і пацалаваў у самую мызу свайго худога мышака.

А потым пацалаваў Пятрусь зямлю і прысягнуў, што ніколі ня будзе піць гарэлкі.

# ЧОРТ

## I

— Братка ты мой, Іван! Ты знаеш, як я цябе люблю! Ну, дай—пацалуемся! Во, гэтак!.. Назавеш ты Міхася сабакаю, лайдаком, калі пачуеш ад каго, што я табе кепска мысьлю.

— Братка ты мой, Міхаська! Забі мяне пярун, во тут, у гэту ночку, на гэтай дарозе, калі я ня люблю цябе. Дай і я цябе пацалую!

І сябры зноў сталі цалавацца.

Міхась і Іван—лясьнікі. Зашлі яны да цёткі Хрумы і трынкнулі, што называецца. А цяпер ішлі да дому.

— Не магу, братка, ісьці,—прызнаўся Іван.

— Дык што-ж мы будзем рабіць?

— Дай ляжам, паляжым.

— Ну, давай.

І яны ляглі.

— Што-ж мы будзем так ляжаць?—кажа Міхась.—Давай клясьці лясьнічага!

Іван замарматаў нешта пад нос і... заснуў.

— Ужо сьпіш? Уставай, пойдзем.

— Не магу, братка.

— Садзіся мне на плечы, панясу катла.

Міхась стаў на кукішкі і падставіў сьпіну. Іван узяўся за плечы. Сталі падымацца. Міхась крактаў, пяўся, а потым паваліўся сьпіною на Івана, і ляжаць абодва. Яны зноў абняліся. Ім здавалася, што ня было і няма на сьвеце гэтакіх сяброў, як яны.

Паляжалі трохі. Іван захроп, як пшаніцу прадаўшы.

— Сьпіць,—сказаў Міхась і ўстаў.

Яму хацелася сьпяваць. Міхась быў чалавек вясёлы А яшчэ быў весялейшы, як хмель пачынаў туманіць яго лахматую галаву. Тады ён быў штукар на ўсе рукі.

— Ігэ-э-э-эй ты, гарэ-э-э-элачка!—прабаваў Міхась выдумаць песьню пра гарэлку. Далей нічога ня мог прыдумаць і сьціх.

У лесе было ціха. Толькі рэха пакацілася! І далёка-далёка паняслося „гарэ-э-ээлачка“ і прапала недзе за гарою ў Белых Крыніцах. Аж страшна стала Міхасю.

## II

Не бяз прычыны страшна зрабілася Міхасю: былі яны якраз недалёка ад Кірылавай магілы.

От што чуў я ад людзей пра Кірылаву магілу.

У князя Р. быў слуга Кірыла. Князь любіў езьдзіць на паляваньне і заўсёды браў з сабою і Кірылу. Адзін раз кажа яму князь:

— От што, каханы, я паеду да пана абедаць, а ты садзіся вярхом на каня, і колькі лесу аб‘едзеш на кані, пакуль я паабедаю, увесь той лес дарую табе, бо ты добры слуга.

Падзякваў Кірыла князю, узяў самага лепшага каня, сеў і паехаў. Каб князь бачыў, колькі ён аб‘едзе, узяў ён з сабою шаблю і рабіў ёю на хвоях лысінкі.

Як пабачыў князь, колькі Кірыла лесу аб‘ехаў, аж за галаву ўзяўся.

— От, што, каханы,—кажа князь:—цяпер ты палезь на дуб, ды паглядзі адтуль, як многа ў цябе лесу.

Кірыла палез на самы верх.

Зьняў князь з плеч стрэльбу.

— Ну, мой каханы, закукуй цяпер, як зязюлька.

Кірыла закукаваў.

Бух!—выстраліў князь.

І скінуўся на зямлю бедны Кірыла з прабітаю навылет галавою.

Пад тым дубам яго і пахавалі. Месца тое і стала звацца Кірылаваю магілаю.

І цяпер яшчэ ў тым лесе відаць на хвоях лысіны. Заплылі яны смалою, і завуць іх Кірылавымі знакамі.

Расказвалі людзі, што ў поўнач каля магілы нехта плакаў, праклінаў панскую несправядлівасьць...

Страшна было тут у ночы.

## III

Многа расказаў чуў Міхась пра чарцей. Знаў ён, што п'яных часта водзяць па лесе чэрці. Знаў, што ад іх можна адхрысьціцца, і яму было і страшна і весела.

Ірось Міхась, як яго хто падбіў, узяў і загукаў на ўвесь лес:

— Чэрці, трасца вашай галаве, сюды ідзеце!

Рэха паняслося па дарозе, пашло па кругламу балоту к Белым Крыніцам і сьціхла каля Кірылавай магілы.

Міхась стаяў і слухаў, як яно гудзела.

І зноў усё стала ціха.

Бліщчасты месяц, як кружок залаты, стаяў ужо высака над лесам. Ціха было ў густым бары; закрыла ніз цемната. У Белых Крыніцах нудна пераклікаліся совы. Далёка-далёка, як з-пад зямлі, данасіўся сабачы брэх. І чуе Міхась: нешта загрукатала па дарозе. Прыслухаўся... Гук ня сьціхаў і быў ужо бліжэй. Ужо можна распазнаць, што нехта едзе. Колы біліся аб карэньне і скрыпелі.

Міхась пасьмялеў.

Гук і скрып калёс зусім ужо блізка.

Міхась скінуў кажух, вывярнуў уверх шэрсьцю і накінуў на сябе. У шапку ўваткнуў дзьве палачкі заміж рожак і прытуліўся пад хвояй.

Іван спаў, як забіты.

Пад'ехаў воз.

На возе ляжалі мяхі з мукой, а на мяхох сядзеў селянін. Гэта быў Пятрусь Гвозд, той самы Пятрусь, што летась украў у Міхася з лесу тры восі. Пятрусь вяртаўся з млына; боязна азіраючыся па бокох, ён паганяў каня, каб хутчэй мінуць гэта страшнае месца.

## IV

— Стой!—крыкнуў Міхась, выскачыўшы з-пад хвоі і схапіў каня за вобруць.

Пятрусь так і абамлеў.

— Дык вось ён які чорт!—падумаў Міхась.—Што-ж тут рабіць?

„Чорт“ стаяў і не даваў дарогі.

Пятрусь трохі апомніўся. Да яго вярнуўся язык і памяць.

— Уцякай з дарогі, бо канём раздушу!

— Як?! ты мяне з дарогі гоніш?

— Уцякай, кажу, а то яшчэ й нюхаўку паб‘ю!

— Ты мне?! Ды ты ведаеш, хто я?

— Ну, хто-ж ты?

— Ага! Кто я? Папробуй выцяць!

Пятрусь ужо падняў пугу, але не асьмеліўся выцяць „чорта“.

— Ну, годзе! пашоў з дарогі!

— Не, не пайду!

— Чаго ты прывязаўся, як смала? Згінь, прападзі!

Але „чорт“ ня гінуў.

Пакуль яны крычалі, конь пачуў волю і стаў памаленьку заварачвацца назад, шчыплючы траву. У сварцы Пятрусь зусім ня бачыў, што конь яго завярнуўся.

А Міхась як падскочыць да Пятруся ды як запішчыць! Ды так моцна, што аж Іван падняў галаву. А конь шчыпаў траву каля Івана. Як заварушыўся Іван—конь спудзіўся і паскакаў назад у млын.

Га-га-га-га!.. зарагатаў Міхась (ён чуў, што чорт рагоча, падмануўшы чалавека). Пятрусь і ня думаў спыняць каня: скарэй-бы ад гэтага нячыстага месца!

Але, як ён дзівіўся, калі йзноў прыехаў у млын.

А назаўтра Пятрусь Гвозд усім, як у звон званіў, што бачыў чорта каля Кірылавай Магілы.

# ТРЫВОГА

## I

Ужо два тыдні, як над сялом павіс нейкі страх і трывога, чаканьне чагось страшнага і неадхільнага. А што паслужыла першаю прычынаю, дык гэта—вялікая суш. Як толькі пачалася вясна, ніводнага ня было дожджыку. Пасеянае збожжа ў палёх і агароды гібелі. На гэтым грунце й пашлі ўсялякія гутаркі. То тут, то там на вуліцы зьбіраліся мужчыны і жанкі і разьбіралі прычыны, чаму няма дажджу, тут-жа расказвалі розныя страшныя здарэньні апошніх дзён.

А нядаўна пастушкі бачылі такое дзіва, што і ў лысых падымаліся дыбам валасы: на полі совалася ваўчыца, у якой была чалавечая галава. Апроч гэтага, у лесе, як казалі, туляліся катаржнікі, уцёкшыя з астрогу. Усё гэтае, узятае разам, і радзіла той страх і трывогу, што, як туман, віселі над сялом.

А на ўсё сяло найбольшым трусам быў Мікола Гляк. Такога палахлівага і баязьлівага чалавека, як ён, трудна знайсьці. Баіцца ён воўка, баіцца нябожчыкаў, разбойніка, чорта.

Хоць вы азалаціце яго—ніколі ня пойдзе ён адзін у ночы праз лес. А калі, бывала, захопіць яго ў дарозе шэрая часіна, то каню—бяда! І ўжо яго конік сам ведае: чуць толькі пачне зьмяркацца, ён не чакае, пакуль Мікола будзе тузаць яго лейцамі і паддаваць ахвоты пугай, а сам, пырхнуўшы для сьмеласьці, выгінаў сваю худую шыю з куртатай грывай і борзда драбязіў таўсматымі ножкамі. А калі Мікалаю даводзілася ў такі час ісьці пяхотам, то ён так шпарка йшоў, што прыходзіў да дому ўвесь мокры. Ішоў ён раз вечарам. Да сяла было яшчэ вярсты тры. На небе ўжо пачалі ўсходзіць першыя зоркі. Раптам з-пад ялоўцавага куста вылецела птушачка. Мікола

зьнячэўку стаў, і з яго грудзей, процiў яго волі, вылецеў жаласны і доўгі крык:

— А-а-а-й!

II

Ня спалася ў гэту ноч Мікалаю. У хаце з ім быў адзін толькі Міхаська, яго сын, хлопчык гадкоў шасьці. Жонка яшчэ ў дзень пашла да хворай сястры. Пакуль сяло гаманіла, Мікола сяк-так трымаўся і барукаўся са страхам, не даваў яму надта вялікай аблады над сабою. Сон-жа, як на злосьць, ніяк не замыкаў яму вочы. Праўда, у дзень Мікола даў храпака і выспаўся. „Трэба кінуць гэты паганы звычай спаць у дзень“, думаў ён і хаваў галаву пад коўдру, плюшчыў вочы, прабаваў нават храпці. Але, храпануўшы раз, ён спалохаўся свайго храпу і зараз-жа перастаў. Тымчасам сяло моўкла, ноч усё глыбей і цяжэй насядала на зямлю.

— Міхась! Міхаська!

— Га!

— Ты ўжо сьпіш, сынок?

— Сплю,—пачуўся з запечка голас Міхася.

— Можа-б ты, сынок, зьбегаў да цёткі ды паклікаў-бы матку? Скажы—тату нешта нядобра зрабілася.

— Ого! я баюся!

— Дурань ты! Чаго баяцца? Вось сказаў!—стаў бацька высьмейваць страхі сына, а сам увесь калоціцца ад страху.

— А як спаткаю ваўчыцу з чалавечаю галавой?—сказаў сын.

— Якую ваўчыцу? Што ты пляцеш? Сасьніў, ці што?

— Сасьніў! Ці-ж ты ня чуў хіба?

— Дзе? Што?—спытаў бацька апаўшым голасам, а сам пачуў, як уся скура як-бы стала сьцягацца, каб вылужыць яго цела.

А Міхаська стаў расказваць пра ваўчыцу з чалавечай галавой і расказаў гэта такім тонам, што сьмешна было сумлявацца ў праўдзе.

— Брэшуць!—чуць ня плачучы, сказаў бацька.

— Дальбог, татачка, праўда! Вось, тата, не дасі веры! Спытайся, у каго хочаш.

Але тут у Міколы і язык адняўся. Ён баяўся зірнуць у вакно, бо быў пэўны, што ў вакне ўжо тырчыць страшная галава.

Памаўчалі.

— Міхаська!—зноў аклікнуў бацька сына,—паглядзі ты там на прымурачку мой капшук з тытуном і прынясі мне яго, сынок: нешта захацелася закурыць.

Гаворачы так, Мікола думаў залучыць да сябе сына і палажыць яго з сабою—усё-ж весялей, як чуеш каля сябе жывую душу.

— Дальбог-жа, татачка, ня ўстану! Зарэж мяне—не падымуся: я чуў—нешта шаўпатала ў качэргах!

— Цьфу, брыда!—вырвалася ў Міколы.

Цяпер ён калаціўся, як асінавы ліст, і мусіў шчаміць зубы, каб ня ляскалі. Але быў такі момант, што сіла шчамленьня перарвалася, і зубы так застукалі, усё роўна, як Марцін Паліваны прабаваў на вялікдзень моц яйца, зьбіраючыся гуляць у біткі.

А сыну здалося, што гэта нехта бразгае ў вакяніцу. Ён падняў галаву і абапёрся на локці.

— Тата!—голасам, поўным перапалоху, аклікнуў цяпер сын бацьку,—нехта трасе вакяніцу!

Ці з вялікага страху, ці ад гічаноў, што бацька еў на вячэру, толькі-ж у жываце ў яго як забурчыць! Як-бы хто ў трубу затрубіў!

— Ай!—нема загукаў на ўсю хату Мікалай, ды так страшна й дзіка, што сыну здалося, што ўжо бацьку душаць, і ён з свайго кутка як залякоча!

А бацьку чорт ведае што здалося.

— Ай, тата!

— Г-г-гу!

І такі справілі кірмаш, што хата траслася.

Мікола ўсхапіўся з пасьцелі, як няпрытомны. Ён нічога ня помніў, звалок з ашостку жончыну спадніцу і накінуў яе на плечы. Бягучы да дзьвярэй, вырваў з коміна заткала і выскачыў на двор. Каля яго, уляпіўшыся за зрэбныя порткі, бег Міхаська. А на гэты час праходзіла тут варта. Пачуўшы крык, вартаўнікі таксама перапалохаліся. Зірнуўшы туды, адкуль

нёсься крык, убачылі агонь: Мікалаева суседка, Лэя, пякла булкі і вышла з лучынай у сені.

— Пажар!—загаманіла варта.

Адзін з вартаўнікоў кінуўся на званіцу і давай жарыць у званы. Абудзілася сяло, падняўся крык, гвалт. З усіх двароў забрахалі сабакі.

— Хто гарыць? хто гарыць?—пыталіся, бягучы, людзі.

Мікола Гляк высунуўся з двара на вуліцу з заткалам у руках і з жончынай спадніцай на плячох.

Убачыўшы Мікалая ў такой вопратцы і з заткалам у руках, цэлая чарада сялян адкінулася назад і з крыкам: „чорт! чорт!“—пусьцілася наўцёкі.

— Стойце, браткі! гэта-ж я!—загаласіў Мікалай і пабег за імі з заткалам, а за ім і Міхаська. Але на вуліцы ўжо нікога ня было. Ахамянуўшыся, Мікалай узяў за руку сына і сказаў:

— Сынок, хадзем да хаты! І маўчы, нікому нічога ані шэп!..

А назаўтра яшчэ большая трывога павісла над сялом...

# НА НАЧЛЕЗЕ

I

Немалады ўжо чалавек Тамаш Чучка, і не яму-б езьдзіць на начлег. Праўда, начлег не такая ўжо цяжкая рэч: але што ні кажы, усё-ж такі старым касьцям куды лепш было-б ляжаць на сяньніку каля печы. Але хто-ж паедзе? Якуб, можа, гэтымі днямі прыдзе з плытоў, а покі што трэба зьбірацца. Падапрануўшы кажушок і падперазаўшыся путам, Тамаш вышаў з хаты

На вуліцы ўжо тупалі капытамі коні, бражджалі званкі сіпаватымі галаскамі. Начлежнікі ехалі шумна. Сярод іх было колькі дзяцюкоў, а найболей усё былі дзеці,—хлопцы-падшывальцы; былі тут і дзяўчаты. Уся гэта галда крычала, гаманіла; дзяцюкі, а за імі і жэўжыкі-хлопцы, пазвалялі сабе залішняе: ніводнай хаты не прапускалі яны, каб ня выкусіць якой штукі наконт гаспадара, гаспадыні або іх дачкі.

Едуць, скажам, каля Дзямянавай хаты. Ну, Дзямян дык Дзямян—чалавек, як і ўсе людзі. Не! ім трэба зачапіць чалавека. Ось пад'яжджае адзін да вакна, спыняе каня і пытае:

— Дзямян дома?

— Дома,—чуецца з хаты.

— Тэм-латадэм, Дзямян дома!—крычыць распусьнік і едзе далей. За ім едзе другі, трэці і гэтак усе:

— Дзямян дома?

— Тэм-латадэм, Дзямян дома!—падхопліваюць усім гуртам.

Усякі ведае, што „тэм-латадэм“ чорт яго знае, што яно такое, але ў канцы Дзямяну так намазоліць вушы гэта „тэм-латадэм“, што ён зрываецца ў адных портках і кашулі, хапае качаргу і вылятае, як бура, на вуліцу. Гэтага толькі і трэба падшывальцам. Яны з крыкам і сьмехам задаюць махні-драла

вярхамі на конях. А Дзямян, лаючы і праклінаючы іх, бяжыць за імі вератняў два, пакуль дух не захопіць яму. Пад'ехаўшы да Тамаша, начлежнікі зацягнулі песьню:

У нашага Тамаша
Гразь цячэ з капялюша.

— А ты глядзі от, каб у цябе з носа не пацякло,—спакойна адазваўся Тамаш, падводзячы каня да плоту, каб сесьці вярхом. Каню, відаць, ня вельмі падабаецца нясьці на сабе гаспадара, і ён, як толькі Тамаш нарыхтуецца сесьці, зараз-жа ўцякаў ад плоту. Тамаш крычаў на каня, зноў цягнуў яго да плоту, пакуль сяк-так не ўшчарэпіўся вярхом.

Начлежнікі ўжо ад'ехалі далёка, як Тамаш выяжджаў з двара, ды яно і лепей: якая яму кампанія гэтая блазнота? толькі выскаляцца будуць, а конь і сам патрапіць за імі.

II

Начлежнікі выбралі высокі, сухі груд, каб можна было прылегчы і разлажыць агонь. Кожны начлежнік вёз з дому па палену дроў, бо луг быў голы, як бубен. Спыніліся начлежнікі, спыніўся і Тамаш; ён спутаў свайго каня, павесіў яму на шыю перавясла, каб заўтра скарэй знайсьці свайго каня, і прылёг воддаль ад гэтай маладой галды.

З шумам і гамам раскладалі начлежнікі агонь, штурхаліся, дурэлі. А Тамаш, скінуўшы капялюш і ўзьняўшы ўгору вочы, пазіраў на яснае зорнае неба. Зоры, як матылёчкі, трапыхаліся, дрыжалі, і іх бляск пераліваўся дзіўнымі колерамі нязьлічаных агней. За лугам чуць-чуць выступала сваім чорным абрысам зубатая палоска яловага лесу, а над ім мігацелі чырвоныя стужкі трывожных зарніц. Кругом было так спакойна, так ціха і згодна, што душа мімавольна адрывалася ад зямлі і няслася ў невядомую высь, каб зьліцца з хараством, з безграпічнасьцю гэтага таемнага, неразгаданага сьвету, і нейкая бяспрычынная радасьць разыходзілася па ўсіх закутках цела.

Тамаш лёг на сьпіну, падлажыўшы пад галаву рукі. Доўга ён ляжаў гэтак і разважаў у сваіх думках. Аб чым думалася, ён і сам не адказаў-бы, каб яго хто спытаў аб гэтым. Думкі самі йшлі і праходзілі, бы тыя лёгкія хмаркі на небе,—ішлі й раставалі, як сьняжынкі.

А там, каля агню, варушыліся і бегалі дзеці, адтуль нясьліся песьні і выкрыкі. Памалу ўсё супакоілася. Толькі сьмех дружны і закатны, гаварыў, што каля агню яшчэ ня сьпяць. Тамаш зацікавіўся і стаў прыслухоўвацца. Пачуўся сабачы. брэх, праўдзівы сабачы голас. І зараз-жа вырваўся дружны рогат начлежнікаў. Тамаш падняўся і падышоў да агню.

Начлежнікі сядзелі ў кружок. Пасярэдзіне гарэў агоньчык, а каля агню сядзеў хлопчык Пятрусь. Ён і пацяшаў начлежнікаў. Пятрусь, як ніхто, умеў паказаць, як брэша чый сабака.

— Ну, а як брэша Гаронімаў Лыска?—пыталі Пятруся.

Пятрусь брахаў. І ніхто не падумаў-бы, што гэта брэша Пятрусь, а не Гаронімаў Лыска.

Тамаш слухаў, і губы яго самі разьнімаліся для сьмеху.

— І крлошкі пабраў,—сказаў, гаркаючы, Тамаш.

— Пятрлусь!—ня вытрымаў Тамаш:—а як, брлат, мая сучка брлэша?

Жулік-Пятрусь зірнуў на Тамаша.

— Гэрл!-гэрл!-гэрл!—перадражніў ён Тамаша і яго сучку.

Усе так і паехалі са сьмеху.

— От брладзяга,—сказаў Тамаш і плюнуў.

Тамаш пасядзеў яшчэ колькі мінуцін; гаворка начлежнікаў, іх крык і шум неяк адляталі ад яго і ня трывожылі; потым ён прылёг, падпёршы рукою галаву. Сон няпрыметна замкнуў яму вочы, рука саслабела і галава сама зьехала на распрастаную руку.

III

— Што са мною? дзе я?

Тамаш узьняў галаву і стаў прыглядацца. Ён чуў, што нешта цяжка навалілася на яго плечы, і павярнуўся. Гэта мяккае і цяжкае бяз шуму спаўзло з яго. Яму было холадна, усе часткі яго цела дрыжалі ад ранічнай вільгаці. Тамаш успомніў, што тут павінен быць агонь. Але дзе-ж начлежнікі? Ні агню, ні начлежнікаў ня было і почуту.

— Што за праява?—Тамаш правёў рукою па твары, працёр вочы. Змрок і туман, прадвесьнікі раніцы, густа віселі над зямлёю і ўсё закрывалі ад вачэй. Усюды было ціха. Тамаш стаў прыпамінаць месца, куды прыехалі начлежнікі, прыпомніў вечар, жарты начлежнікаў, Пятруся-брахуна. Не без пачуцьця

крыўды ўспомніў ён гэтага самага шэльму, які састроіў кпіны з яго, паказаўшы, як брэша яго сучка. А што было далей? Ці то яму сьнілася, ці гаварыў хто з начлежнікаў... Тут Тамаш увесь закалаціўся. І вось што цяпер яму ўспомнілася. Было гэта на начлезе. У адным месцы тварылася штось страшнае і няўцямнае. Нейкая сіла (ведама, нячыстая), не давала людзям спаць на гэтым месцы. Сядзяць, гавораць—нічога. А як толькі задрэмлеш, зараз-жа з-пад цябе ляціць к чортавай матары вобраць, шапка, люлька; халат зьдзярэ і закіне так, што ня скора і знойдзеш. Ці ня стаўся і ён, Тамаш, ахвярай чортавай сілы?

Тамаш здрыгануўся: яму стала страшна. Рука яго кранулася чагось мяккага й вільготнага; аглянуўся—купіна; яна нібы заварушылася, і на ёй на момант блiснуў агоньчык. Шапка ўзьнялася, валасы паўставалі на галаве Тамаша, ён ускапіўся і пусьціўся наўцёкі. Але не прабег Тамаш і дзесяць крокаў, як уляцеў у нейкую багну. Тамаш крута павярнуў назад. Лапаць заеўся ў гразь, і нага вылузалася з яго.

Бягучы назад, Тамаш спаткнуўся на купіну і паваліўся. Тут яго апанавала такая злосьць, што ён пачаў таптаць і мясіць нагамі з такою сілаю, што купіна зраўнялася з долам, і толькі чорная пляма асталася сьледам ад гэтай паганкі. Тамаш чуў, што пад нагамі як-бы нешта піснула, але гэта толькі паддавала злосьці. І Тамаш яшчэ доўга, як ашалелы, скакаў па чорнай пляме, падгукваючы:

— Ву! ву! ву!

Зьніштожыўшы ў канец купіну, Тамаш скруціў дзьве хвігі і сунуў іх у розныя канцы сьвету.

— Вось вам, брладзягі!

У Тамаша зьявілася такая ахвота пакрышыць рэбры яшчэ якому-небудь чорту, што ён, здавалася, і ня рад быў, што на ўсходзе пачынала сьвятлець і што, заміж чорта, звонка панясλося па лузе:

— І-і-га-га-га!

Конскае іржаньне прывяло Тамаша да памяці, і ён пашоў у той бок, дзе былі коні. Прашоўшы колькі вяратняў, Тамаш насунуўся на начлежнікаў. Скурчыўшыся ў тры пагібелі, спалі яны вакол таго месца, дзе быў агонь, а на самым вог-

нішчы, закрыўшы яго жыватом, ляжаў Панас, першы штукар ва ўсім сяле. Недалёка хадзілі коні. Узяўшы вобруць і нікому не сказаўшы ні слова, Тамаш пашоў браць каня. Тамаш прыглядаўся, шукаючы каня з перавяслам на шыі. А вось і ён! Тамаш працяг руку, каб узяць каня за грыву. Конь, ухмыліўшы вушы, павярнуўся задам і намерыўся ўбрыкнуць Тамаша. Тут толькі разгледзіў ён наравістую кабылу Андрэя Мотуза. Тамашу стала ясна ўсё. Сярдзіта глянуў ён у бок начлежнікаў. Адтуль нёсься прыдушаны рогат Панаса.

— А каб ты ў чыстым полі рагатаў, каб цябе вон нагамі вынесьлі, як ты мяне нёс, каб на тваю шыю вяроўку завязалі, як завязаў ты перавясла на чужога каня, гіцаль ты!

Усход чырванеў, павеяла прохладзьдзю.

Тамаш ехаў моўчкі і думаў аб тым, як накпілі з яго начлежнікі.

# КАЛОДКА ПЧОЛ

I

Тры гаспадары—Сёмка Доўба, Гілёрык Кажан і Марцін Тапчан—сядзелі за сталом і гаварылі аб пчолах. Галоўным борнікам абабраўся Доўба. Яму першаму прышла ў галаву думка пра пчолы. Мужчыны доўга гаварылі і паддавалі адзін другому ахвоты. А ў гутарцы так надымілі люлькамі, што й галоў іх ня было відаць.

— Калі пашанцуе, то й з аднае калодкі можна разьвясьці пчолкі,—гаварыў Сёмка, абціраючы цыбук проста аб халат.

— Во, гэта,—падхапіў Марцін:—дзіва, што можна! Вунь Кандрат, што кажуць Турэцкая Сьмерць, пазалетась злавіў рой—цяпер ужо мае шэсьць калодак.

— А вы чулі здарэньне з Тацянаю?..

— Чаму-ж ня чулі,—перапынілі Гілёрыка сябры:—дык ты думаеш, што й табе на сьпіну сядзе рой? Не, брат, ня трэба спаць у шапку і чакаць, покі табе пчолы на сьпіну сядуць. Вось у нядзельку паедзем да Язэпа Гавакі і купім калодку „на кумы“.

— Кажуць, у яго рука цяжкая,—заўважыў нясьмела Кажан.

— Баба ты,—накінуўся на яго Сёмка з Марцінам:—верыш дурным бабскім забабонам.

— Верыць ня веру, але гавораць людзі.

— Гавораць людзі! Мала што людзі гавораць! Гавораць, што Мацютава сьвіньня хоча запісацца ў чорнасоценскі саюз рускага народу,—зрэзаў Сёмка Гілёрыка.

Позным вечарам сябры разышліся. Сёмка ўгаварыўся зрабіць козлы на вулей, Марцін узяўся садраць лубок, а Гілёрык павінен быў даць каня зьезьдзіць да Гавакі па пчолы.

II

Асьцярожна вязьлі мужчыны вулей. Конь ішоў памалу, хіба толькі з горкі прыбаўляў ходу і то не па сваёй ахвоце: вулей быў залішне цяжкі (Сёмка гаварыў, што сам вулей каштуе рублі два, а яны з пчоламі далі тры) і пхаў коніка. Сёмка

трымаў каня за вобрацы, упіраўся плячуком у аглоблю, а нагамі ў зямлю і такім парадкам не даваў калёсам занадта разгуляцца. Марцін ішоў з аднаго боку, Гілёрык—з другога, і дзяржалі вулей, каб ён не варочаўся і каб не паадпадалі плястры з пчоламі. Драбіны былі высланы саломаю, і вулей ляжаў, як пан у вагоне першае клясы, жыватом угару. Даўжнік абвязалі белаю завязкаю, а ў вочка ўваткнулі пучок кулявой саломы, каб праходзіў дух і каб не выляталі пчолы.

Марцін некалькі разоў прыкладаў вуха да вульля, каб паслухаць, як гудуць пчолы. Але там было ціха. Марцін думаў, што вулей таўсты, затым нічога й ня чутно. Гілёрык таксама прыкладаў вуха да вульля з другога боку. Ён чуў як-бы нейкі шум, але і сам ня мог разабраць, ці то пчолы гудуць, ці сам вулей шуміць, шаруючыся аб салому. Каб разагнаць сумненьні, Гілёрык грукнуў, як тапаром, кулаком па вульлі.

— Што ты робіш?—накінуўся на яго Сёмка: — матку ўстрывожыш, дурны ты чалавек!.. Цікавы вельмі!

Тымчасам пад'ехалі да самага горшага месца і спыніліся. Трэба было зьехаць з гары. Гара была высокая, прыткая. Сёмка з Марцінам пабраліся за аглоблі, а Гілёрыка пасадзілі вярхом на вулей. Гілёрык упёрся нагамі ў крайнія лёсткі, а рукамі ўшчарэпіўся за вулей, каб ня зьехаў. Калёсы наўперад ішлі ціха, а потым давай каціць барждждэй. Марцін няспрытна ступіў і паднёс сваю нагу пад конскі капыт. Марцін зашыпеў ад болю, як вуж, і выпусьціў аглоблю, а сам, кульгаючы і скачучы на аднэй назе, уляпіўся за драбіны.

— Дзяржы! Дзяржы!

Гілёрык бачыць, што ад яго залежыць лёс вульля, і ён, што сілы, налёг нагамі на лёсткі. Лёсткі зламаліся, і Гілёрык грукнуўся патыліцай аб вулей, аж ногі задраліся ўгару, а потым па вульлі зьехаў на сьпіне і стукнуўся галавою ў конскі зад. На іх шчасьце воз ужо скаціўся з гары, і яны адрабіліся адным толькі страхам, калі ня лічыць гуза на Гілёрыкавай патыліцы і садранай скуры на назе Марціна.

III

На Сёмкавым прыгуменьні сабралася цэлая чарада народу. Тут былі мужчыны, жонкі і дзеці. У садзе ў Сёмкі—там была грушка, яблынька і дзьве вішні—стаялі ўжо прыгатаваныя казлы.

Суседзі памаглі зьняць вулей.

— Можа калі дасьцё мёду пакаштаваць,—сказаў Пятрусь Каптур, плюючы на рукі і бяручыся за вулей.

— Абы мядок быў,—сказалі „кумы“.

Вулей прыладзілі на казлы, у ногі палажылі пляскаты камень.

Тут Сёмка ўзяў рэшата, улажыў у жончыну спадніцу, абвязаў яго паяскамі і ўзьдзеў на галаву.

А Сёмка тымчасам зьбіраўся зьняць завязку з даўжніка.

Усе, хто быў, накрылі галовы, хто чым папала. У гэты час над вухам Марціна загуў авадзень. Марцін падумаў, што пчала і прыгнуў галаву да самай зямлі, а Гілёрык намерыўся бегчы.

— Не варушыцеся, бо пазаядаюць,—сказаў Сёмка, зьняў завязку і выняў салому з вочка. Але пчол нідзе ня было відаць.

— Што-ж яны не лятуць?—пытаў Сёмка з трывогай і зьлёгка стукнуў кулаком па вульлі, прыхінуўшыся, колькі паззваляла рэшата, да вульля.

— Што за ліха? Дай, Марцін, сякеры, адчынім голавы.

Прынясьлі сякеру. Сёмка выняў круг.

Усе проста так і замёрлі.

— А ліха-ж яго матары!—крыкнуў Сёмка, зірнуўшы ў вулей:—от, падвёў, гад, каб яму жывот падвяло! Нічога, брат, няма ў вульлі. Пусты! А бадай яму пуста было жыць!

Некаторы момант было ціха. І раптам усе зарагаталі. Маладыя хлопцы-падшывальцы давай скакаць каля Сёмкі і крычаць:

— Дай, дзядзечка, мёду!

— Трасцу ў бок,—вылаяўся Сёмка і пхнуў нагою ў вулей. Казлы схіліліся, і вулей грукнуў на зямлю.

— Я такі й казаў вам, што ў Язэпа цяжкая рука,—вясёла крыкнуў Гілёрык, рады, што вышла так, як ён казаў.

— Няхай яна адсохне яму!—прамовілі Марцін і Сёмка.

# ПІСАРСКІ ВЕЧАР

## I

Яшчэ за месяц да пісаравых імянін усё панства м-ка В. знала, што пісар першага верасьня імяніньнік, і кожны местачковы пан даўно ўжо вастрыў зубы на гэтыя імяніны.

Усё местачковае панства зьбіралася кожны вечар у каго-небудзь з паноў, піло гарэлку, грала ў карты, абівала свае языкі аб косьці таго, хто ня ўмеў або не хацеў пападаць ім у тон і туляўся іх зборышч.

Гэтак і не агледзіліся, як падышоў дзень імянін. Зачыніўшы манапольку, сядзелец Амяльлян Шурпаты пашоў да пісара. Па дарозе ён клікнуў вураднiка Дарафея Бойку. Пок вураднік зьбіраўся, падышоў дзяк. Да іх яшчэ прылучыўся дыякан з фэльчарам, і ўся кампанія павандравала да пісара. Амяльлян Шурпаты ўсю дарогу гаварыў сьмешныя рэчы. Яго расказы вядомы былі тым, што ў іх было ў сто раз больш гразі, чым сьмеху і розуму. Але, калі ён ужо надто дацінаў, кампанія хваліла яго. І самаю вышэйшаю хвалою для сядзельца было, калі яго сябрукі скажуць: „А ліха-ж яго матары!“ або: „А бадай ты апруцянеў!“

Пісар Сямён Гаўрылоўскі даўно ўжо чакаў гасьцей, пахаджваючы па пакоі, курачы папяросу і пакручваючы вусы.

У сталоўцы ўжо быў гатоў стол, на якім стаялі бутэлькі і цэлыя горы закускі. Пісар вясёла пазіраў на стол і часамі ўсьмяхаўся сам сабе, глянуўшы ў люстэрка, і пстрыкаў пальцамі каля самага вуха.

— „Се жэніх градзе!“—сказаў дзяк, адчыніўшы дзьверы, і ўся кампанія ўвалілася ў пісаравы пакоі.

Госьці яшчэ павіншавалі імяніньніка. Да вячэры паставілі некалькі „банкаў“.

Часамі за картамі падымаўся гоман. Старшыня ніяк не хацеў прымаць у доўг і наступаў на фэльчара.

Фэльчар, спусьціўшы ўсе грошы, сярдзіта пазіраў на старшыню, кідаў карты, казаўшы: „Давіся акула!“ і сядзеў або радзіў суседу, на якую карту паставіць больш „мазу“.

## II

— Пажалуйце, гаспада, закусіць!—паклікаў пісар гасьцей.

Загрымелі крэслы, і ўсе павылазілі з-за стала, каб перайсьці за другі

Пісар наліў чаркі.

— За здароўе Сямёна Пятровіча!—сказаў, устаўшы, дыякан:—дай божа, каб на другі год дачакалі, няхай красуецца наш пісар на многія леты! ура!

— Урра!—падхапілі ўсе і сталі стукацца чаркамі з пісарам. Пісар стаяў і кланяўся. Выпілі па другой, па трэцяй.

Пасьля чацьвертай чаркі падняўся пісараў памочнік. Нос яго быў заўсёды чырвоны, як бурак, і выдаваў яго шчырую дружбу з манаполькаю.

Каб хто пазіраў за ім у гэты вечар, той прымеціў-бы, як ён вымаў з кішэні паперку і заглядаў у яе. Памочнік меў значок „саюзу рускага народу“, пасылаў свае творы ў газэту „Рускае знамя“ і лічыўся ў мястэчку чалавекам мысьлі, пяра і бутэлькі.

Стаўшы на крэсла і абцёршы нос, памочнік пачаў:

Пышны баль у нас сягоньня,
І закуска і гарэлка!..
Слава пісару Сямёну!
Ах! каб ён ня плаваў мелка!
Рускі пісар наш па духу,
Сіцыліста ён ня любіць,
Як крамола завядзецца,
Марне ён яе загубіць!
Ён наш пісар, ён наш друг,
Няхай крэпне яго дух!..

Усе заціхлі, а потым адразу падняўся гоман. Госьці ня ведалі каму аказваць чэсьць: пісару ці памочніку-поэту.

Тут усе кінуліся да пісара:

— На ура! на ура!

Пісара падхапілі на рукі і пачалі шугаць. Больш за ўсіх стараўся сам поэта. Пісара падкідалі чуць не пад самую столь. Ногі яго целяпаліся ў паветры. Лецячы з-пад столі, ён грукнуў абсацам поэту па лобе. Поэта схапіўся аднэй рукою за лоб, а другой дастаў з кішэні паперку, на якой былі напісаны вершы.

Яшчэ раз чытай!

— Не! вы пабачце, што з вершаў выходзіць!

— А што?

— А вось чытайце адны толькі вялікія літары кожнага новага радка.

— „П-і-с-а-р С-я-м-ё-н!“

— Вось маладзец!

— Ах, што за галава!

— На ўра яго!

III

Сваімі вершамі памочнік павярнуў, можна сказаць, кола пісаравых імянін.

Першага гэтыя вершы трохі ўкалолі вураднікa. Як так? ня пісар-жа пастаўлен ад начальства ваяваць з крамолаю, а ён вураднік!

— Ці вы помніце—пачаў ён—вучыцеля? які быў „чырвоны“? Толькі зірнуў на яго, адразу пазнаў, што гэта за птушка. А дзе ён? Кару нясе ў турме за неўважаньне начальства. А хто быў рука караючага? Я—Бойка. А ў вёсцы Сту...

— Але хто накрыў пазалетась вычыцялёў на зьезьдзе?—перапыніў старшыня. (Ён увесь час маўчаў і старана ачышчаў чаркі і талеркі).—Бачу я, зьбіраюцца,—валасатыя, кудлатыя. Тут я і дагадаўся. Я да земскага, ад земскага да прыстава. Ось і накрылі! І цяпер чалавек дваццаць бяз месц бадзяюцца, як басякі.

— О! гэта называецца зацягнуў невад!—крыкнуў памочнік і пахлопаў старшыню па плячох.—Вураднік і пісар, і старшыня—усе карысныя людзі...

— А я—дзяк, жыву так: брахну таму і другому і жыву сабе так-сяк! Мая доля чацьвяртак!

І дзяк, узяўшыся ў бокі, пашоў у прысядку.

— „Віно весяліць сэрца чалавека!"—сказана ў пісаніі,— крычаў дзяк.

Гэтага толькі й чакаў сядзелец.

Ён даўно ўжо памыкаўся сказаць і сваё слова. Цяпер горла яго прарвалася, і ён пачаў гаварыць. Сядзельцаў ён парабіў самымі лепшымі людзьмі. Перш-на-перш, яны заўсёды сядзел ціха, ніколі не бунтаваліся.

— Воласьць зьбірае нядоімкі, як крумкач косьці,—гаварыў сядзелец:—а да мяне мужык сам нясе капейку. Голы, босы, адны косьці, а бутэлькі гне. З ветру валяецца, а даход дае. А праз каго? праз сядзельца!

— І праўда, дурань ты!—пачаў ураднік—за чыёю-ж ты сьпіною сядзіш ды чэрава гадуеш? Асталоп ты!

— Ты сам дурань і асталоп; ад дурня чую!

— Ці падстаўляў ты калі хоць раз свой барані лоб пад кулю? Ці трос ты хоць людзей уночы? Сядзіш сабе, паветра псуеш, ды лезеш яшчэ з суконным рылам куды табе ня сьлед!

— Скажы гэта суччы старога Ахрэма, а ня мне. Знаю я... за рубля можна!.. Моўша Перац ня мае права...

Невядома, якая справа была ў ураднiка з Моўшам Перцам,—так яна і засталася загадкаю для гісторыі, бо толькі што сядзелец адчыніў рот, каб сказаць нейкае слова пасьля „права", як Бойка, схапіўшы з талеркі салёны разьлезлы агурок, шыргануў ім у нос сядзельцу. Усё гэта зрабілася так скора, што сядзелец быў падумаў, што яго нос сарваўся сам і паляцеў да ураднiка. Але нос аказаўся на сваім месцы—як салдат на часох. На адзін момант усё прапала з вачэй сядзельца. Ён толькі бачыў ураднiка ды талерку з капустаю, якую ён зараз-жа і скарыстаў.... Уся галава Дарафея была ў сырой капусьце. Сок пацёк яму за каўнер, некалькі моманту ураднік стаяў сагнуўшыся і круціў шыяй, як аглушаны баран.

Ці-ж можна было сьцярпець такую абразу?

Ураднік сарваўся з месца, скінуў са стала бутэльку з гарэлкаю, некалькі тарэлак, схапіў сядзельца за сярэдзіну і пацягнуў на двор. Але на зборнай ураднiка асьвятліла шчасьлівая думка: каля дзьвярэй стаялі два цэбры—адзін з паранкаю для каровы, другі з мякінаю для сьвіней. Сядзелец прачытаў думку ураднiка і бараніўся з апошніх сіл. Бой цягнуўся ня-

доўга: праз некалькі моманту сядзелец сядзеў у цэбры з паранкаю... Толькі што вураднік хацеў ужо сьвяткаваць свой верх, як сядзелец так спрытна трэснуў нагой па Бойкавых цяглях, што калені вурадніка далёка падаліся ўперад, а зад яго, як капор, што забіваюць палі, уляцеў у сьвінячае сьнеданьне. Усё гэта зрабілася так борзда, што госьці не маглі нічога зрабіць, каб адхіліць гэту катастрофу.

Цяпер госьці ўсе былі на зборнай і рвалі жываты ад сьмеху.

— Пабеда Давіда над Голіафам,—сказаў дыякан.

А дзяк сьпяваў: „Каня і всадніка мора чэ-р-мно-о-ое!“

# СТАРЫЯ ПАДРЫЗЬНІКІ

Зусім другім чалавекам стаў Сьцяпан, як купіў ён два старыя бацюшкавы падрызьнікі. Ці яго чорт падбіў на гэта, ці другія ўвялі ў пакусу (а ўвясьці ў гэты грэх было ня цяжка, бо ўсе, як крумкачы на падлу, накінуліся на гаспадарку старога нябожчыка-бацюшкі),—ня ведаю.

Зранку да вечара стаяў тут гоман, ішоў торг,—кірмаш дый годзі! Сьцяпан хадзіў, як заўсёды, моўчкам, снуючы ад клуні да кухні, ад хлева да клеці і ад клеці ізноў да кухні. Часамі ён заглядаў у пакой, стаўшы на парозе, і прыслухоўваўся, як розныя людзі—жыдкі, панкі і паўпанкі—расьцягалі зьбіранае доўгімі гадамі дабро. Былі такія моманты, калі Сьцяпану моцна хацелася ўскочыць у пакой і штурхануць у каршэнь надаедлівага Шлёмку Цырліка. Дый папраўдзе сказаць, трэба было мець цярпеньне з гэтым шэльмаю-круцялём: як пачне енчыць, біць у грудзі, разводзіць рукамі,ківаць галавой і крычаць такім праразьлівым голасам, як-бы з яго з жывога зьдзіралі скуру, то ня толькі такі чалавек, як Сьцяпан, але і кожны ня вытрывае тут.

Сьцяпану ў гэтыя дні было моташна на сэрцы. Адна прычына: ён тут пражыў бадай усё сваё жыцьцё. Кожны вугал двара, кожная жэрдзіна ў плоце былі яму так блізкі і так знаёмы, як-бы гэта былі яго дзеці. А гэтыя таўстыя вязы, якія чародамі стаялі вакол пасады, якія ні кропелькі не адмяніліся з тых часоў, як іх памятае Сьцяпан, і пад якімі не адзін раз задаваў ён храпунца ў гарачыя летнія дні,—здавалася, казалі яму: „Эх, Сьцяпан! Цяпер-то разлучымся мы!“ Другая прычына была тая, што ў асобе старога бацюшкі Сьцяпан страціў ня толькі добрага гаспадара, але, можна сказаць, і дарагога друга. А колькі разоў, бывала, лаяліся яны. Бацюшка

Сьцяпана, Сьцяпан бацюшку. І гэта ні на адзін шэлег не псавала іх крэпкую, вякамі гадаваную дружбу.

І цяпер, стоячы на парозе і бачачы, як Шлёма Цырлік сваімі бруднымі пальцамі калупае кожную закарвашыну, кожную пляму на бацюшкавых падрызьніках, Сьцяпан ня мог болей трываць. Адважна ступіў ён у пакой, проста ў тое месца, дзе стаяў Шлёма, вырваў з рук падрызьнікі і, зьвярнуўшыся да матушкі, спытаў:

— Колькі яны каштуюць?

— Восем рублёў, Сьцяпанка.

— Дык адлічэце з маіх грошай, я забіраю іх.

Сказаўшы гэта, Сьцяпан кінуў на Шлёму такі погляд, як-бы хацеў сказаць:

— Шалудзька ты! Ось як купляюць людзі!

Шлёма толькі ўскінуў плячыма, усьміхнуўся і сказаў:

— Ну—э!

Сьцяпан-жа высака падняўшы галаву, можа першы раз за ўсё жыцьцё, вышаў з пакояў. Яму здавалася, што ён памаладзеў на цэлых дзесяць год, што ён зрабіў штось важнае, і на яго пазірае цяпер увесь сьвет. А ідучы праз кухню, ён звысака зірнуў на Зосю.

Хоць яна і добрая зараза, але ўсё-ж такі была нешта як-бы жонка, хай сабе і ня венчаная.

Зося, зірнуўшы на тое, як высака трымаў Сьцяпан старыя падрызьнікі і як сьвяціўся яго твар, адразу сьцяміла ў чым тут справа.

— Пашоў-бы лепш на сьметнік ды выкінуў грошы,—сказала яна.

— Ведаеш ты... з носа ды ў рот,—адказаў Сьцяпан.

Можа каб хто сказаў, то Сьцяпан зьвярнуў-бы увагу, а то яна! Што яна знае? заткала*) гэта старое!

Сьцяпану цяпер хацелася пабыць аднаму. Найлепшым для гэтага месцам быў хлеў, дзе стаялі з аднаго боку коні, а з другога—каровы. У хлеве Сьцяпан пражыў добрую палавіну свайго веку. Што ён тут перадумаў—ведаюць адны толькі сьцены. Толькі мала хто цікавіцца апавяданьнем гэтых сьцен і загарадак, дзе стаіць скаціна і жыве чалавек.

*) Заткала—жмут ануч, каторымі даўней затыкалі коміны.

Зьняважыўшы Зосю, Сьцяпан, аглядаючы падрызьнікі, спаважна пасунуў у свае пакоі. Чуць толькі паказаўся ён на парозе, як каровы зараз-жа прыветна замыкалі, а коні вясёла заіржалі. Можа яны хацелі сказаць яму: „Дзень добры, дзядзька Сьцяпан! А з чым ты прышоў?“ Убачыўшы падрызьнікі, уся жывёла разам паціхла. Рыжая карова, зірнуўшы на лахманы, сумна затрасла галавой і выставіла рогі. Відаць і ёй не спадабалася Сьцяпанава пакупка. Толькі бугай аказаў Сьцяпану, як трэба увагу. Прасунуўшы галаву праз загарадку, ён панюхаў падрызьнікі, потым прытуліў губы к наздрам і, задраўшы галаву, доўга стаяў так, выскаліўшы зубы, як-бы сьмяючыся.

— Чаго выскаляешся, воўчае мяса?—сказаў нездаволены Сьцяпан і махнуў на бугая рукою.

Бык, не апускаючы галавы, адхіліўся і сьмяяўся столькі, колькі лічыў гэта патрэбным. Знашоўшы на шуле каля варот гвозд, Сьцяпан павесіў падрызьнікі і пачаў іх разглядаць: браў іх за рукавы і доўга прыглядаўся, шоргаў рукою, абціраў пыл і абчышчаў іх. А калі заўважаў дзе плямку, то пляваў на яе і моцна шараваў рукавом. Часамі ён адыходзіў на колькі крокаў, каб пацікаваць, як яно выглядае здалёк. Матэрыя хоць куды! Праўда, Сьцяпан, купляючы падрызьнікі, і ў думках ня меў які-небудзь гандаль: проста купіў, уважаючы памяць старога бацюшкі. А як гэта высокае парываньне яго душы крыху ўляглося, то Сьцяпану само сабою прышло пытаньне, на якую рэч могуць прыгадзіцца яму гэтыя падрызьнікі. Гм! На якую рэч? Сьмешна і пытаць: ці ён сам ня зможа насіць іх? Ось трошкі павузіць рукавы—нават і краўцу ня трэба даваць—надзеў пад халат і насі здаровы.

Каб праверыць гэта, Сьцяпан зьняў адзін падрызьнік апрануў. Глянуў на рукавы—і вузіць ня трэба; з-пад халата нічога ня будзе відаць. Агледзіўшы рукавы, зірнуў на полы—трохі зашырокія... Э! З шырокага заўсёды зробіш вузкае... А каровы, высунуўшы галовы, пільна глядзелі на Сьцяпана і нічога ня цямілі тут. Толькі Падласка, ні з таго ні з сяго, узяла ды зараўла на ўвесь хлеў так, як равуць каровы, убачыўшы разьніка. На гэты час міма хлява праходзіў Цырлік і затрымаўся крыху. Едавіты сьмех скрывіў яго губы і Цырлік сказаў:

— Ой, Сьцяпан, як хораша! Каб цяпер ты стаў на агарод, то ня было-б на сьвеце лепшага пужала,—і зарагатаў яшчэ, сморад!

— Каб табе калом вочы пасталі, абармот ты! Ідзі, ідзі, бо зацкую сабакамі.

Ужо Цырлік адышоўся, а Сьцяпан яшчэ доўга гаварыў, якія круцялі гэтыя жыды.

Абапёршыся на загарадку, Сьцяпан дастаў люлечку на кароценькім цыбучку, накладаў у яе махорку і разважаў. Думкі яго вярцеліся каля падрызьнікаў. Ніхто не павінен быў думаць—мысьліў Сьцяпан,—што яму дыхтавала якая-небудзь карысьць, як ён купляў падрызьнікі. І ня думала быць! А хто ня верыць гэтаму, няхай праканаецца сам: адзін падрызьнік Сьцяпан няіменна зашле ў сяло свайму нябожу, сястрэнічу Мікалаю. Аддасьць краўцу, то такія выфастрыгуе нагавіцы або сьвітку, што пярвейшая ў сяле красуля будзе млець па Мікалаі. Толькі ці варта даваць яму? Яшчэ летась ён падстроіў Сьцяпану штучку, за якую прышлося пасьвяціць вачыма. Як роднага, прыхіліў Сьцяпан свайго нябожу, а той назаўтра выцягнуў з варывеньні ў бацюшкі бутэльку наліўкі і два скруткі каўбас, як добрыя заваратні. Калі каму даваць, то не Мікалаю.

— Дзень добры, дзядзька! Як маешся?

Сьцяпан знячэўку аж падскочыў і выпусьціў у гной люльку.

— Бадай ты, Міколка, спрах: так спужаў мяне!

Сьцяпан і не сьцікаваў, як увашоў той, пра каго ён думаў.

— Што гэта ў цябе, дзядзька, вісіць?—спытаў Мікалай.

— Дзе вісіць?—спытаў, нібы-то нічога ня ведаючы, Сьцяпан і дадаў:

— А! гэта! гэта... так рэч адна.

Мікола зьняў падрызьнік і стаў разглядаць яго.

— Ці ты, дзядзька, хочаш быць папом? Навошта яны табе?

Доўга ня думаючы, Мікалай нацягнуў на сябе падрызьнік. Потым ён, як вар'ят які, выскачыў на двор і давай круціцца.

Сьцяпан узлаваўся.

— Пакінь, Мікола, дурэць! Чуеш ты?—крыкнуў Сьцяпан і выбег на двор, каб сьцягнуць з Мікалая падрызьнік. Мікалай адбегся і давай падражнівацца з дзядзькам.

Ды гэтага мала: ён яшчэ стаў выбрыкваць нагамі, прысядаць і размахваць падрызьнікам, як крыльлем. Сьцяпан вышаў з цярпеньня і давай лавіць Мікалая. Ды дзе ты дагоніш яго, калі ён вёрткі, як чорт. Хіба прыпёрці да плоту? Але і платоў яму няма, каб ён апруцянеў! Якраз на тое ліха Зося заярыла з кухні сабак. Убачыўшы незнаёмага хлопца і Сьцяпана, што за ім ганяўся, пакрыўджаныя і злыя сабакі з трох бакоў кінуліся на Мікалая. Мікалай выламаў з плоту кол і давай ваяваць з сабакамі. А яны так і лезуць сьляпіцаю. Адзін з іх злаўчыўся і схапіў Мікалая ззаду за падрызьнік. Падняўся страшны гаўк, крык. Выскачыла Зося з кухні, матушка з пакояў; з-за вугла высунулася галава Шлёмы Цырліка. Мікалай вылузаўся з падрызьніка, прысланіўся да вязу і адмахваўся калом ад сабак. Сьцяпан падняў падрызьнік, адагнаў сабак і, не гаворачы ні слова, хвасянуў разоў два Мікалая гэтым падрызьнікам.

— А ты, нехрысьць, чаго тут? На, цю на! на, цю на!

Шлёма, падняўшы лапсардак, задаў такога лататы, што пыл курэў з-пад ног.

— Не сярдуй, дзядзечка, ня гневайся,—сказаў Мікалай,— праўду гавораць людзі: „Ня поп—ня ўбірайся ў рызы".

— Пашоў ты к чортавай матары,—гіцаль! Думаў зрабіць, як чалавеку, а цяпер—вось табе гула асмаленая!—злосна сказаў Сьцяпан і сунуў пляменьніку ў нос фігу.

— Дзякую, дзядзечка, і за гэты гасьцінец.

Сьцяпан плюнуў і зачыніўся ў хлеве.

Ён быў цяпер злы; больш усяго ён злаваў на Цырліка бо гэта яго работа, гэта ён падгаварыў Мікалая састроіць такія кпіны з дзядзькі.... І на чорта было купляць гэтыя няшчасныя лахманы? Ну, што ў іх ёсьць? золата з іх ліецца? Толькі сабе сэрца пераеў. Тут Сьцяпан з ненавісьцю зірнуў на падрызьнікі. А яны сабе вісяць, як нічога. А ўсё гэта чортаў жыд: не нагані яго чэрці—і ў галаву ня прышло-б Сьцяпану купляць гэтыя дрынды. Ні іх надзець, ні іх перарабіць. Праўду казаў той Мікола: „калі ня поп—ня ўбірайся ў рызы". А перарабіць? Колькі-ж яны будуць каштаваць? А ён, Сьцяпан, што? дзяцюк малады? Вунь ужо сівых валасоў у галаве колькі... А восем рублёў, як у печы згарэла.

І ўвесь гэты дзень Сьцяпан быў сярдзіты. Куды-б ён ні пашоў, за што-б ні ўзяўся, усюды гэтыя падрызьнікі стаяць у вачох, як-бы іх там хто павесіў. Бадай на іх упадак! Ня толькі людзі, а і жывёла сьмяецца з яго. Тут Сьцяпану ўспомніліся словы Зосі, Цырлік, Мікалай, як скакаў ён лявоніху, рыжая і падласая карова і бык. Ну, усе-ж з яго сьмяяліся. А сабака дык нават разарваў ззаду. І маюць клёк, бо ён дурны, хоць і стары. Нават уначы ня меў Сьцяпан супакою. Прысьніўся такі брыдкі сон. Здаецца—сьнілася Сьцяпану—ён даваў каровам, а падрызьнікі (зноў яны!) віселі на старым вязе. Так сабе і вісяць яны. Потым гэты вяз як-бы ўздрыгануўся, сагнуўся, павярнуў сукамі і ўсьцягнуў на сябе падрызьнікі. Сьцяпан падышоў і кажа: „Стары ты ўжо чалавек (так і сказаў—чалавек) займацца такімі жартамі не фасуе. І толькі Сьцяпан хацеў зьняць падрызьнікі, як гэты вяз падняўся ўгару, потым сарваўся з месца і пашоў бегаць па дварэ, а за ім—сабакі, Зося, матушка; зноў выскачыў з-за вугла Цырлік і пашоў каля вязу ў прысядкі.

Сьцяпан прахапіўся, правёў рукою па сьцяне—падрызьнікі вісяць на месцы.

— А каб вас агонь спаліў!

Тут ён падняўся, зьняў іх і давай малаціць імі па загарадцы.

— Панясу тапіць!

І Сьцяпан цьвёрда пастанавіў утапіць іх у рэчцы. Няхай толькі разьвіднеецца. З гэтай пастановай Сьцяпан заснуў ізноў. Настала раніца, і Сьцяпан супакоўся.

— А каб папрабаваць панесьці іх прадаць? Сьцяпанавы думкі пашлі па новай дарозе. Прадаць, няпрыменна прадаць. Яшчэ й зарабіць можна будзе. Ухадзіўшыся каля жывёлы, Сьцяпан зноў стаў прыводзіць у парадак падрызьнікі: разгладзіў іх, пачысьціў і ціханька шуснуў у горад. А горад быў тутжа. Прышоўшы ў горад, Сьцяпан распасьцёр падрызьнікі на руках так, каб паказаць іх з найлепшага боку. Прашоўся па аднэй, па другой вуліцы. Ніхто ня пытае—няма купца. А часам які цікавы падойдзе, паглядзіць, ускіне плячыма і пойдзе.

— Манах! манах!—гукнулі два падшывальцы і, тузянуўшы Сьцяпанавы падрызьнікі, пусьціліся драла.

„Ня мела баба клопату, купіла парася“, думаў ходзячы Сьцяпан, страціўшы надзею знайсьці купца.

І ўжо Сьцяпан павярнуўся, каб ісьці дадому. Зірк—Шлёма Цырлік.

— Ну, Сьцяпан, многа зарабіў?

— Многа. Каб ты столькі на сьвеце пражыў!—адказаў Сьцяпан.

— На два рублі.

Сьцяпан перш хацеў паслаць Шлёму к чорту, ды апомніўся і стаў таргавацца.

— Паглядзі, якая падкладка—шоўк, чысты шоўк. А верх!..

Прадаў Сьцяпан падрызьнікі за тры рублі.

І нічым ня можна было горш раззлаваць Сьцяпана, як спытаць яго:

— Ці многа зарабіў, Сьцяпан, на падрызьніках?

# ВЫСТАГНАЎСЯ

I

Іван Кісель гараваў усё сваё жыцьцё. Бяда была ў тым, што ў гэтага гора ды было яшчэ сваё гора: заўсёды выпадала так, што беднаму Івану ніколі не ўдавалася выплакацца, выгаравацца, выскардзіцца і гэтым самым выліць з душы ўсю гаркату, усю боль пахілага жыцьця. І ўсё складалася так, як-бы нейчая паганая воля неадступна цягнулася за Іванам і не давала яму здарэньня аблягчыць душу. І цягнулася так з самага маленства, з тых часоў, калі Івана яшчэ трудна было адрозьніць ад Мар'і, іначай сказаўшы, калі Іван яшчэ пад стол пехатой хадзіў.

Разравецца бывала Іван... ды каб-жа разроўся, як людзі: толькі скрывіць губы, глядзіш—ужо маці зьнімае хвартук і мобілізуе паскі на Іванаву сьпіну—ня сьмей плакаць! Дзе тая праўда на сьвеце? Чаму Антось, як пачне плакаць, то кінецца на сьпіну і барабаніць нагамі так, што яму можа пазайздросьціць найлепшы барабаншчык? Вазьмі-ж ты! Выйдзе Іван на вуліцу, завядзецца з кім біцца—што-ж гэта за чалавек, калі ні разу не пабіўся?—паб'юць, пакрыўдзяць Івана. Што-ж бы вы, добрыя людзі, рабілі, каб вы самі былі Іванамі? Вы-б заплакалі, і ўсякі-б заплакаў. А чаму не паплакаць Івану? Але-ж няхай паспрабуе заплакаць: засьмяюць, заплююць ды ў прыдачу горш наштурхаюць.

Раз Іван, моцна пакрыўджаны, адважыўся зайсьці ў кусты на бераг рэчкі. Прышоў Іван, азірнуўся, сеў на беражок, прыслухаўся. Тут, думае ён, ніхто яму не пашкодзіць адплакацца за ўсё. Кругом было так ціха, так маркотна. Здавалася, усё журылася і настроілася слухаць плач Івана. І нешта ў сярэдзіне Івана, каля самага сэрца, так завіло, так сьціснула, што

Іван раптам нагнуў галаву і мімавольна падняў калошы портачак: яму здавалася, што ў яго так многа выльлецца сьлёз, што вада ў берагох ня ўтоўпіцца. І толькі Іван завёў: „А-о-о-а-гы!..“ як з таго берагу паказалася з кустоў галава рыбака Сёмкі.

— Гэта ты прышоў пужаць мне рыбу, злодзей ты?! Я табе паскавычу!

Іван падняўся і кінуўся наўцёкі. Так і засталіся нявыплаканыя сьлёзы.

II

Іван асірацеў. Астаўся ён адзін на сьвеце, як тая калатоўка. Быў ён на плытох і ня бачыў, як хавалі бацькоў, так што і тут Івану не ўдалося паплакаць, як людзі. Сёстры яго павыходзілі замуж, адзін брат выбраўся ў Амэрыку, другі паехаў у сьвет шукаць шчасьця і долі. А Іван астаўся адзін гаспадарыць. Ад бацькоў засталася яму хатка, сякая-такая будоўля, надоба, худоба і паўчвэрці зямлі. Была ў Івана на прымеце і дзяўчына. Праз колькі месяцаў пасьля сьмерці бацькоў ён зрабіў заручыны, а на „сёмуху“ было назначана вясельле. За тыдзень перад „сёмухай“ Іван занядужаў. Доўга ён не паддаваўся, перамагаўся, і ўсё-ж такі мусіў, бедны, здацца. У сераду перад „ушэсьцем“, так пад вечар, Іван зьлёг. Ляжыць Іван, а работа стаіць, рабіць няма каму, хата не падмецена, усюды непарадак. „А нашто ён, парадак гэты?“—думае Іван: усё роўна ён памрэ; знойдуцца добрыя людзі і пахаваюць яго. Івану стала горка, як ніколі. Усё жыцьцё шэрае, невясёлае жыцьцё, прашло яшчэ раз перад яго вачыма. Што-ж? ён памрэ. Яго закапаюць, і згіне ён, забыты скора навекі, і нічые вочы не затуманяцца сьлязьмі, як яго будуць несьці на могілкі. І гэта называецца жыцьцё, гэта яго век!.. Адна толькі сьветлая мінуціна мігалася яму, як адзінокая зорачка ў бязрадасную восень: цяпер яму ніхто не пашкодзіць усім нутром, усёю сілаю замучанай душы аддацца смутку і жалю; хоць цяпер адплача ён усё гора жыцьця, адстогне ўсю боль: ласьне чалавек ня мае права хоць на адну мінуту, сьветлую мінуту, у жудаснай імгле цёмнага жыцьця?

Іван паправіўся на пасьцелі, зьмяніў палажэньне свайго цела і абвёў поглядам хату. І толькі што прыгатаваўся ён за-

стагнаць, як на парозе паказалася постаць яго дзяўчыны. „І хто яе прасіў сюды? Чаго яна тут?“—падумаў Іван. Хацеў нават узлавацца, але ня было злосьці.

— Мілы Іванка мой! што ты выдумаў хварэць?—успагадна спытала яго Магда.

— Нядобра мне, Магда. Мусіць і я пайду за бацькамі,—сказаў Іван.

Яму самому так горка стала ад гэтых сваіх слоў, што сьлёзы гатовы былі самі паліцца з вачэй.

— Ну што ты выдумляеш? Паправішся Іванка,—і Магда прылажыла руку да лоба Івана.

Яшчэ большы жаль падшыб Івана.

— Хіба ўзяць ды заплакаць? Зараўці на ўсю хату? Не! падумае, што ён—нюня, плаксівая баба; яшчэ і замуж не захоча пайсьці.

А боль так і ходзіць па ўсім яго целе, і яму, Івану, так хочацца застагнаць. „Ці застагну, ці не?“ думае Іван. „Ой! скарэй-бы яна ішла дадому!“

— Мне, Магдачка, ня так ужо і кепска,—пачаў разважаць Іван Магду:—паляжу трохі і ўстану.

— Вось маладзец!—сказала Магда і нагнулася, каб пацалаваць хворага. Дрож прабегла па целе Івана, яму стала надта прыемна. Ды Іван ахамянуўся; гэтак і ахвота пройдзе спазнаць асалоду свайго вялікага жалю і смутку.

— Можа-б табе, Іванка, спарыць гарнушачак малака?

Іван заматаў галавою і павярнуўся на другі бок. Магда колькі мінуцін пасядзела моўчкі, як-бы раздумваючы над тым, пагневацца ці не. На ўсякі выпадак яна надзьмула губкі і насупіла крыху бровы. Іван няпрыметна павярнуў галаву і зірнуў на яе адным вокам; не, не выпадае так рабіць. Не адварочваючыся, Іван падняў руку і палажыў на плячо Магдзе. Гэтага было даволі, каб Магда прасьвятлела.

— Паляжы, саколік, а я прыбяру крыху ў хаце.—І, узяўшы венік, яна стала падмятаць хату, рабіць парадак, стаўляючы кожную рэч на сваё месца, а бедны Іван увесь аж кіпеў. Яму раптам зрабілася так нядобра, так заламала яму косьці, як-бы хто ціснуў яго абцугамі, аж ён скрыгітаў зубамі, каб стрымаць стагнаньне, падкорчваў і выпраствaў ногі, варушыўся, як пасо-

лены мянёк. А Магда так павольна варушылася, як-бы і ня думала ісьці дадому. Часамі выходзіла яна ў сенцы, ды зараз-жа ізноў паказвалася ў хаце. А Іван, чуць толькі яна выйдзе, торапка ўглядаўся і прыслухоўваўся, як далёка адышлася Магда, каб застагнаць хоць адзін разок, і ніяк не ўдавалася.

„І што яна рабіць са мною? Скарэй-бы пашла ўжо адгэтуль“, не цярпелася Івану.

— Ну, Іванка, бывай здаровы...

Іван узрадаваўся на момант, ды зараз-жа яшчэ горш апаў духам, калі Магда дакончыла мову:

— Ідзе сюды мама!

Сказаўшы гэта, Магда борзьдзенька пацалавала яшчэ раз Івана, угнула галаву і ціхачом шмыганула за парог, на задворкі, каб не спатыкацца з маткай, і пашла дамоў.

— Ай малады, малады! брыдка! Праз тры дні вясельле, а ён расьцягнуўся, як навой!—голасна, на ўсю хату, затарабаніла Настуля, Магдзіна маці. Што ў цябе баліць, Іван?

— Нічога,—буркнуў Іван.

— Дык чаго-ж ляжыш?

— А што-ж мне рабіць? скакаць?

— На вясельлі скачы, а цяпер ачунівай. Пакажы, сынок, свой лоб.

Іван злосна заварушыўся, лёг на сьпіну і выставіў лоб. Старая Наста прылажыла руку на лоб, потым з боку, потым з другога.

— Трохі ёсьць агонь, але нічагуткі, глупства. Гэта табе з ветру пашкодзіла. Ось я зараз напару ліпавага цьвету з чаборыкам, вып‘еш, прапацееш—і пройдзе.

— Я і так ужо пацею,—адазваўся хворы.

— Ну гэтага мала: трэба, каб спацеў ад зёлак,—стаяла на сваім Наста.

Бачыць Іван, што тут нічога ня зробіш.

— Нічога мне ня трэба. Дайце мне паляжаць спакойна, і ўсё пройдзе.

— Хто-ж табе не дае ляжаць? Ляжы сабе, а лякарства я табе ўсё-ж такі дам.

— Ведаеце што,—пусьціўся Іван на хітрыкі:—мне так заманулася гарэлкі, што здаецца, каб выпіў чарачку, то адразу

ачуняў-бы. Каб як сказаць Магдзе, няхай-бы прынясла мне кручок.

— Гарэлкі зажадалася, кажаш?

— Ох, як хочацца!

— Ну, то яна напэўна паможа. Калі хворы чалавек чаго моцна хоча, то тое памагае. Я помню, мой Андрэй хварэў на тыфус. Стаў крыху ачунiваць. Зажадалася яму хлеба, як табе, ось, гарэлкі. А дактары—божа барані есьці чорны хлеб. Я мусіла хаваць ад яго хлеб, хоць ён і стары, мой Андрэй, але хворы горш малога. Раз ён устаў ціхенька ў ночы, зашоў у камору і чуць што ня цэлы бохан вытрубіў, і што-ж ты думаеш? Як бачыш, ачуняў. Ну, я пайду.

Счакаўшы крыху, Іван падняўся, падышоў да вакна,—нікога няма. Тады Іван паваліўся на пасьцелі, накрыўся коўдраю, потым нагамі сьцягнуў яе з сябе, схапіўся за бок.

— Ой! ой! ой! о-ё-ё-ё-й!—заойкаў, застагнаў Іван і сам ня верыў гэтаму шчасьцю. Стагнаў ён доўга, стагнаў на ўсе лады і галасы: то высока і тонка, то нізка і тоўста, то каротка, адрывіста, то працяжна і пявуча; пры гэтым ён варочаўся, корчыўся так, што зубамі мог дастаць свае калені, то выцягаўся колькі дазвалялі яму скура, жылы і косьці.

А як перастагнаў усё, то пачаў высьпеўваць свае стогны на манер песьні „Сонца ўсходзіць і заходзіць“.

— О-о-о-ёй! О-ё-й! О-ё-ё-й да!

— Вось табе і хворы: ляжыць сабе ды сьпявае,—сказала Настуля, пераступіўшы з Магдай парог хаты. У хвартушку ў яе быў гарачы імбрычак з зёлкамі і паўкварты гарэлкі.

— Выстагнаўся, дык і паправіўся,—сказаў весела Іван.

# НЕДАСТУПНЫ

Быў гарачы летні дзень, адзін з тых дзён, аб якіх гавораць: варыць, як у гаршчку. Далёкая цёмная палоска лесу абвязалася наміткаю сіняватай смугі, як маладзіца хусткаю, каб ня так пякло сонца. Падыхаўшы зранку вецер сьціхнуў зусім, і здавалася, што ён сьціхнуў не дзеля таго, што гэта так трэба, а зумыслу, на злосьць усім тым сілам, да якіх таксама належала не даваць у зьдзек гарачыні зусім распаранай зямлі з яе стварэньнем. Адным словам, здавалася, што вецер зазлаваўся, як той дзядзька Піліп, які, бачачы, што ён адзін толькі працуе ў хаце, а ўсе туляюцца ад работы, як сабакі ад мух, і што адзін ён нічога ня ўскурае, плюнуў, кінуў работу і лёг у халадок, сказаўшы: „Чорт-жа вас бяры!“

І ціха было ўсюды. Маўчаў луг, маўчала поле: на вуліцы ў сяле ня відаць было нікагутка. Толькі зрэдка перабягаў з надворку ў надворак сабака, высалапіўшы язык і шукаючы лепшай схаванкі ад мух. Праўда, дзень быў сьвяты. Сяляне пахаваліся ў халадку, а Карусь Цесьля яшчэ ад сьнеданьня залёг на таку голым жыватом.

З аднаго канца вуліцы раптам выскачыла ў аднэй кашулі няскладная фігура селяніна. Па тым, як нясьлі яго ногі, людзі сьвядомыя адразу пазналі, што дзядзька Арцём крыху „хлесянуў“, што цяпер няспрытнымі нагамі выратоўваў сваю асобу і што ззаду за ім павінна быць нейкая грозная сіла, ад якой і нясьлі яго непаслушныя ногі. Прабегшы некалькі хат, Арцём зьвярнуў на агароды, шуснуў у каноплі, адтуль разорваю між капусты забег у надворак Юркі Труса, з надворку заламаў у вулачку і пасучыў проста к калодзежу. Дабегшы да студні, Арцём азірнуўся. Вуліца была пустая. Арцём яшчэ раз азірнуўся і, уляпіўшыся за зруб студні, перакінуў сваё цела ў

студню, павісшы на руках. Павісеўшы так з паўмінуты, ён высунуў сваю кудлатую ўскалмачаную галаву і павёў ёю навокал. Якраз недалёка ад студні бегла з падаткнутаю спадніцаю кабеціна з качаргою ў руках. Арцём борзьдзенька схаваў галаву за зруб, зірнуў уніз, пусьціў рукі і... шугнуў. Праз момант пачуўся глухі плеск вады. Калодзеж быў няглыбокі, і вады ў ім было мала. Шчасьліва апынуўшыся на дне, Арцём трохі пачухаўся і стаў прымайстроўвацца на скрыні. Скрыня заметна выдавалася над вадой. Арцём усеўся на адным яе краі, а ў другі ўпёрся нагамі. Тут ён пачуў сябе вольна й выгодна і ўздыхнуў лягчэй.

Яму й самому ніколі ня прыходзіла такая думка—ускочыць у калодзеж. Усё гэта зрабілася раптоўна, ад аднаго толькі жаданьня хітрэй схавацца ад жонкі. А як тут было прахладна ды спакойна, то Арцём ад здавальненьня нават усьміхнуўся сам сабе. О, гэта-то штука! Аб гэтым усё сяло загаворыць...

— Каб ведаў, то ўзяў-бы з сабой тутун і люльку,—сказаў Арцём і плюнуў пад ногі.

Грыпіна, прабегшы агароды і Юркаў двор, згубіла Арцёмавы сьляды. Кінуўшыся туды і сюды, яна спынілася, момант раздумваючы над тым, куды прапаў Арцём. Хоць Арцём і нікога ня бачыў, лезучы ў калодзеж, але яго дагледзіў малы Пятрук: ён быў у суседзкім садзе і бачыў праз шчыліны частаколу, як дзядзька Арцём кідаўся ў калодзеж. І ў той момант, як Грыпіна ламала галаву, шукаючы Арцёма, Пятрук выбег на вуліцу.

— Цётка! дзядзька ўкінуўся ў калодзеж!—закрычаў Пятрук, моцна спалоханы гэтым выпадкам.

Пятруковы словы чуць-чуць данесьліся да Арцёма.

— А, пся маць яго, злодзей! такі дасачыў!—ціхенька да сябе самога прамовіў Арцём.

Цётка Грыпіна выпусьціла качаргу і заламала рукі.

— А бацюхна! А матухна! Што ты, Пятрук, гаворыш?

— Дальбог-жа, цётачка, дзядзька ўкінуўся ў калодзеж! Я сам бачыў,—чуць ня плачучы, кляўся Пятрук.

Грыпіна, забыўшыся качаргі, кінулася да студні.

— Арцём! Арцём! Ці ты тут? Ці жывы ты, Арцём?— галасіла Грыпіна, перагнуўшыся над зрубам.

Арцём задраў угару галаву, зірнуў на жонку і нічога не сказаў.

А за гэты час Пятрук абегаў усе вуліцы і збурыў усё сяло. Падняўся крык, гоман, студня бралася з бою, кожнаму хацелася зірнуць, што робіцца на дне. Самыя лепшыя месцы пазаймалі найбольш паважныя і сталыя мужчыны. У вадзін момант стала вядома, што Арцём жывы і здаровы. Там і сям, наўперад цішэй, а потым сьмялей разносіліся вясёлыя покаты сьмеху.

— Бадай ты прапаў, Арцём! як ты залез сюды?—пытаўся Арцёма Антось Галавач.

— Дух сьвяты занёс мяне, братка,—загаманіў Арцём, і голас яго вылятаў са студні, як з магілы.

Стаяўшыя каля студні перадавалі другім Арцёмавы словы.

— П'яніца ты, лодыр! Дурасьць твая, гарэлка ўплішчыла цябе сюды! Гэта-ж трэба! Пасароміўся-б ты людзей!—пачала адчытваць яго Грыпіна.

— Ну! ну! завяла ўжо катрынку!—глуха загукаў Арцём з калодзежа.

— Чаго ты лаешся, Грыпіна?—накінуўся на кабету Карусь Цесьля і міргнуў у бок мужчын:—мусіць добра яму жывецца з табою, калі чалавек на зламаньне карку кінуўся ў студню. І, зірнуўшы на жанок, дадаў:—вось што робіць ваша грызьня з нашым братам.

— Гарэлка вам гэта робіць,—загаманілі жанкі дружным хорам.

Карусь замахаў рукамі і заткнуў вушы.

— А няхай вас! вось сарокі! Толькі і астаецца ўцякаць ад вас у калодзеж.

Карусь нагнуўся і клікнуў Арцёма.

— Арцём! ці добра табе там?

— Добра, браце!—адазваўся Арцём і заплюхаў нагамі па вадзе:—такі табе тут халадок, што проста—ах!.. Карусь! ты заўсёды быў мой лепшы друг,—кінь, браце, мне сюды люльку!

— Вылазь, брат, тут пакурыш. Вось і драбіны табе прынесьлі.

Некалькі мужчын паволі апушчалі ў студню прынесеныя драбіны.

— А нашто мне драбіны?—пытаўся, седзячы на скрыні, Арцём:—думаеце, я вылезу адгэтуль? Што я там буду рабіць з вамі? што мне там міла? нічога!.. Ня чуў хіба грызьні? А тут, браткі,—рай.

„І гэй, у Та-а-ганро-о-зі, да! І гэй, у Таганро-о-зі, да!“. зацягнуў Арцём у калодзежы песьню.

— Дык ты, Карусь, ня кінеш мне люльку?—скончыўшы сьпяваць, спытаўся ізноў Арцём.

— Татка, галубок! выла-а-азь!—заплакаў Арцёмаў сынок хлопчык гадоў дзесяці.

— А, гэта ты, Сымонка? А сынок ты мой! Скажы мне, каток, які гэта прарок сядзеў у пустыні і крумкачы насілі яму мяса?

— Выла-а-азь!

— Я ў цябе, пся кроў твая, пытаюся: якому прароку крумкачы насілі мяса?

— Выла-а-азь!

— Эх!—уздыхнуў Арцём:—адзін шкадуе люлькі, і гэта лепшы друг! Другі ня хоча сказаць, каму крумкачы насілі мяса, і хто? Родны сын! І жыві ты пасьля гэтага на сьвеце! Лепей-бы ты мяне, матанька, на сьвет не радзіла.—І Арцём ізноў засьпяваў:

Нашто ты радзіла
Мяне, матанька?
Нашто ты радзіла
На сьвет сіраціну?

— Доўга ты будзеш сядзець тут?—падышоў да студні стараста і пачаў гаварыць з Арцёмам, як начальнік:—ось зараз я ўлезу, то ты ў мяне шпарка вылезеш!

— А ну, улезь!.. Лезь, стараста, дальбог, лезь! Месца хопіць і табе. Бо і твая Алёна добрая жыжка (Ці там яе няма?). Дык лезь, стараста, лезь, галубок!—І Арцём заварушыўся, пасунуўся, каб даць старасьце месца.

— Цьфу! Каб ты згарэў!—плюнуў стараста і адышоўся пад сьмех сялян.

— Карусь!—не сунімаўся Арцём:—дык ты кінеш мне люльку?

— Лаві! я табе кіну!—сказаў Мікіта Чуваль і ўжо выняў з губы сваю люльку.

— Я хачу, каб Карусь мне кінуў. Карусь! Кінь мне, брат, люльку!

Карусь ужо быў нарыхтаваўся кідаць, ды Грыпіна вырвала люльку з рук Каруся.

— Ато-ж! Яшчэ чаго! Патураць яму! Вылазь, каб ты бокам лазіў!

— Татачка, выла-а-азь!

— А скажы, як зваўся той прарок, якому крумкачы насілі мяса?—не здаваўся Арцём.

Тут праціснуўся да студні Тарас Рубеж. І падышоў ён з такой мінай, што ўсе мімавольна зірнулі на Тараса: на яго твары кожны прачытаў, што ён выдумаў спосаб выгнаць Арцёма са студні.

— Хлопцы!—зумыслу голасна загукаў Тарас, каб Арцём пачуў,—ураднік прыехаў, будзе пратакол пісаць за незаконнае сабраньне!—І, зьвярнуўшыся да Арцёма, Тарас пачаў яго лаяць і крычаць:

— Скарэй вылазь, Арцём! Што ты нарабіў тут?! Прыехаў ураднік, будзе пісаць пратакол, бо ты бунтуеш сяло, зьбіраеш і баламуціш сялян. Вылазь скарэй і хавайся, бо напіша пратакол, у вастрог пасадзяць!

— Ураднік, кажаш?—спытаўся Арцём.

— Няўжо-ж хто! ён!

Арцём заплюхаў абедзьвюма нагамі і зацягнуў:

> Адракомся ад старага міру,
> Атрасём яго прах з нашых ног!

Сяляне дружна зарагаталі.

— Марсільянку сьпявае!

— Вось табе і Арцём! І вазьмі ты яго за руп дваццаць!

— Што мы, хлопцы, будзем цацкацца з ім? Няхай сядзіць!—сказаў асаромлены Тарас Рубеж.

— Забірайце, забірайце, хлопцы, драбіны!—гукнуў зьнізу Арцём,—бо яны мне замінаюць тут. А адгэтуль ня вылезу. Што вы да мяне маеце? Ня вылезу дый годзі. Курыць мне

не даяце, сказаць ня хочаце, каму крумкачы насілі мяса... Бывайце здаровы, хлопцы!—і Арцём заварушыўся і адвярнуў галаву ў куток студні.

— Кінь яму люльку! Што з п'яным зробіш? Засьне, яшчэ захлынецца,—пачуліся нягромкія галасы.

— Арцём! Лаві!—крыкнуў Карусь, і люлька паляцела ўніз, а праз мінуту з калодзежа стаў узьнімацца сіні дымок, як пар з катла.

— Дзе ты, Сымонка? Сымон?

— Чаго, татка?

— Дык як зваўся прарок, якога крумкачы кармілі мясам?

— Ільля!

— Ну, вот, даўно-б так гаварыў!

— Вылазь, татачка!—сказаў павесялеўшы Сымонка.

— Вылазь, Арцём! Пажартаваў, дый будзе,—загулі і сяляне.

— А вы мяне любіце?

— Гэ, ды яшчэ як любім!—адказалі мужчыны.

— Я вылезу; але калі вы мяне запраўды любіце, то павінны згадзіцца на мае умовы. Дык слухайце: Грыпіна не павінна ні лаяцца, ні сварыцца. Грыпіна! Чуеш ты там?

— Чую, чую! Ну, добра, ня буду!

— Пабажыся!

— Дальбог ня буду!

— Слухайце-ж далей: усе павінны разыйсьціся, каб ніхто ня бачыў, як я буду вылазіць. Згаджаецеся?

— Згаджаемся, згаджаемся!—загаманілі мужчыны.

— Ну, то вылажу!

Драбіны заварушыліся, зараз-жа з калодзежа паказалася кудлатая галава Арцёма.

# ЗНАШЛІ

## I

Мікалай ня памятае, як ён запрог каня, як сеў на воз і выехаў з Менску. Суседзі назаўтра казалі, што Мікола сеў упоперак воза, так што адна нага была ў драбінах, а другая выстаўлена на фасон пісталета. Колькі праехаў ён такім парадкам—ня ведаюць, бо Мікалай скора зьнік дзесь на павароце дарогі. Усё гэта ня так ужо важна—ці мала як езьдзілі даўней з кірмашу людзі!—важна было тое здарэньне ў дарозе, якое вымагае таго, каб упамянуць, як Мікола выехаў з гораду. Мікалай, як праз сон, памятае дарогу, тыя крамкі на краю гораду, тыя карчомкі з вывескамі „Піва“, дзе затрымоўваліся сялянскія хурманкі, каб купіць якую-небудзь дробную рэч і ў апошні раз папрашчацца з горадам, хлабыснуўшы на дарогу шклянку піва. Мікалаю нічога гэтага ня трэба было, і каб яго хто запытаў тады, што ў яго на карку—качан капусты, гарбуз ці галава, то ён зразу напэўна не адказаў-бы па тэй прычыне, што ён ня чуўся галавы.

Мікалаяў конік, ня чуючы над сабою цьвёрдай гаспадарскай рукі, пачынаў патрошкі лайдачыць: ён ішоў то адным краем дарогі, то другім, то сярэдзінай; дарога-ж была шырокая; а часамі проста спыняўся, адпачываў і толькі азіраўся, ці зважае гэта гаспадар і ці не бярэцца за пугу. Калі-ж яго абганяла чыя-небудзь хурманка, то ён некаторы час ішоў за ёю, каб скубянуць чужога сена або канюшыны. І ўрэшце зусім псаваў сваю канячую натуру, бо пачынаў выцягваць торбы з аўсом. Шукаючы аўсу, ён памацаў торбу з сольлю і выкінуў яе на дарогу. „Купіў ня купіў, а патаргаваць можна“, так, мусі быць, разважаў Мікалаяў конь. Праўда, ён дастаў сабе па мордзе, ды ці варта на гэта зварачаць увагу? А Мікалай не

варушыўся і ляжаў, як нябожчык. Покі адышоўся конік вярсты тры ад гораду, прашло добрых тры гадзіны часу. Людзі йшлі і ехалі. Шырокая дарога гаманіла, гула і стагнала ад людзкіх галасоў, груку калёс і стуку капытаў.

— На бок!—гукалі часамі Мікалаю, а Мікалай і ў вус сабе ня дзьмуў, бо нічога ня чуў. Яго абганялі, аб'яжджалі, кідалі жарты, бо што возьмеш з п'янага? А можа людзі памяталі словы нашага нябожчыка Базыля, які вучыў:

„Не чапай п'янага: п'яны ўсё роўна, як сьвяты".

Мікалай быў ужо далёка ад Менску, як ён крыху ачухаўся і прышоў у памяць. Конік сам даўно зьвярнуў з шырокай дарогі, і дадому заставалася вёрст пяць. Палажыўшы на воз другую нагу, Мікола спыніўся, агледзіў воз і паправіўся. Усё было ў возе, не хапала толькі аднэй рэчы: на галаве ня было шапкі.

II

Недалёка ад тэй паваротки, дзе зьвярнуў Мікалаяў конік, была яшчэ паваротка направа ў другую вёску. Мікалай ня ведаў, што ў некалькіх кроках за ім ехала другая хурманка і што ён не адзін такі на сьвеце, а ёсьць яшчэ ня горш яго дзюбануўшы Нічыпар Касмык. Нічыпар таксама нічога ня ведаў пра Мікалая і ляжаў на возе, як пласт. Ляжаў ён галавою к конскаму заду, абняўшы мяшок вотрубей, і гаварыў з ім, як з першым другам на сьвеце, бо думаў, што гэта быў не мяшок з вотрубямі, а яго добры знаёмы, якога ён узяўся падвязьці.

— Ты кажаш, брат, што гарох у цане? На ўсё цяпер цана расьце... На лета засею ўсё поле гарохам... Но-о!—гукнуў Нічыпар і хвасянуў пугаю ў той бок драбін, дзе з роду не запрагаўся конь.

— Лявон!—гаварыў далей Нічыпар да мяшка:—давай зоймемся гарохам, га?.. Што, брат Лявон, ці не казлы ты ўжо дзярэш? Эх, ты слабейка: выпіў, як куранё, а зьвіўся, як вуж, глынуўшы жабу. Гной ты, а не чалавек.

Тут Нічыпару ўспомнілася песьня пра Лявона, і ён зацягнуў:

Ой Лявон мой
Ды павёз гной,
А ляцела варона
Ды схапіла Лявона.

А той „Лявон“ ляжаў сабе і нібы-та таго. Пад'ехаўшы з паўвярсты, Нічыпар пастукаў па мяшку і сказаў:

— Ось ты, Лявон, і чужы мне чалавек, а чаму я цябе люблю? А затым люблю, што ты, як і я, чалавек бяз хітрыкаў: што я буду каго абгаворваць? зайздросьціць каму? Ці як Сымон Вочап буду хадзіць у воласьць скаргі пісаць? Ні з кім я не сварыўся, ня біўся, ня судзіўся, бо той апошні чалавек, хто судзіцца. Няхай лепш маё пяройдзе. А калі трэба выпіць, то і вып'ю,—вып'ю, ды розуму не прап'ю, бо што тут галоўнае?..—піць, але не прапіваць розум. Так я кажу?.. Эх, мілы ты мой друг! Дзе знойдзеш яшчэ такіх двух?

Нічыпар цяжэй налёг на мяшок, абняў і стаў яго цалаваць.

— І сыты-ж ты, сыты, ліха твайму ліху! Проста, як мянёк!.. Дзе ты нагуляў гэтулькі сала? Ось як вазьму я цябе, як сьцісну, ды як шпурну, то ты ў мяне апынішся... у Сёмкавым Гарадку!.. Што, можа скажаш ня шпурну? Ня шпурну? Я цябе ня шпурну? Дальбог шпурну, так шпурну, што косьці забражджаць!.. Хто ты мне? бацька або дзядзька? дзяцей я з табою хрысьціў? Вон з майго воза!

Нічыпар абхапіў мяшок, лёг з ім у рад, узьняў, штурхануў каленам і скінуў на дарогу.

— Разьлёгся-бо, як пан які,—пачаў Нічыпар, каб апраўдацца прад сабою:—я чалавек такі—ні з кім ня судзіўся, бо судзіцца ня люблю: раз, раз—і гатова!..

Доўга бубніў Нічыпар,—покі не заснуў. А прачнуўся—няма на галаве шапкі!

III

На тым месцы, дзе разьехаліся Мікалай з Нічыпарам, ляжаў стары капялюш. Я колькі раз бачыў яго на свае вочы, як пехатой хадзіў з Менску ў Беларучча. Гэты капялюш цяпер яшчэ жыў у маёй памяці. Я не магу ня ўспомніць пры гэтым майго друга, пісара, які першы, можна сказаць, зьвярнуў увагу на капялюш, як сьледуе быць. Пісар меў на рэдкасьць чуткую душу, мяккае сэрца і жывое слова, якім ён так валадаў, што мог, здаецца, прымусіць плакаць каменьне. Ну, што, на праўду, выяўляе сабою стары спаршыўлены капялюш, вывезены на поле з якога-небудзь сьметніка, а потым занесены ветрамі на дарогу? Так пазіраем на рэчы мы, простыя людзі,

так пытае звычайны чалавек. Але ня гэтак зірнуў на яго пісар.

— Капялюш!—сказаў пісар і штурхануў мяне локцем:—ляжыш ты цяпер тут адзін, і топчуць цябе людзкія ногі. Цябе даўно забылі і кінулі аднаго на зьдзек цэлага сьвету. Пячэ цябе сонца, дажджы паліваюць, топчуць у гразь, нагой падкідаюць. А ты, друг маўклівы, ляжыш сіратаю, і ветры сярдзіта шумяць над табою! І ніхто і ніколі цабе ня спытае, што твой за век быў і доля якая.

Тут пісар высмаркаўся—вочы яго былі мокры ад сьлёз.

— А былі-ж і ў цябе сьветлыя часіны, вясёлыя дні, і табе, сіраціне, сьвяцілі агні. Новенькім вышаў ты з майстравых рук дзе-небудзь у Лодзі, або і ў Варшаве, і цябе не насілі ні Янук, ні Пятрук, а пан якісь важны, і ты быў у славе...

Ды дзе там? Я не скажу і дзесятай долі таго, што казаў пісар. Але ці так яно было, як ён казаў, ці іначай, я ня ведаю. Адно я толькі ведаю, што гэты стары капялюш прыцягнуў да сябе двух п'яных гаспадароў.

Завярнуўшы каня і трымаючыся за аглабіцу, плёўся Мікалай, прыглядаючыся, ці не ляжыць дзе шапка. З другога боку, такім-жа парадкам, плёўся і Нічыпар. Што было ў іх думках, сказаць трудна. Па тым, як яны плёвалі, можна было здагадацца, якое ў іх было пачуцьцё.

— Можа паднялі часамі шапку?—спытаў Мікалай, спаткаўшы трох хлапцоў:—конь, воўчае мяса, спудзіўся, нёс з вярсту, і шапку згубіў, ось.

— Не, не паднялі,—адказалі, на момант спыніўшыся, дзяцюкі.

— Якая-ж хвароба панясла твайго каня? Ці ня выпіў ён?—спытаў потым адзін.

— Можа ты бяз шапкі выехаў з дому?

— Глядзі, яе даўно ўжо па этапе павялі,—сьмяяліся хлопцы з Мікалая.

— Я бачыў як-бы шапку на шляху. Чарнелася нешта, можа гэта твая, чалавек, шапка,—сказаў ехаўшы на гэты час гаспадар з Паперні.

— Ото дзякую, ведама мая!—сказаў Мікалай, сеўшы на воз і пагнаўшы каня. З другога боку таксама і Нічыпар распытваў жанок, ці ня бачылі яго шапкі.

— А якая-ж твая шапка—старая?—спытала адна.

Нічыпар паглядзеў на кабету: жартуе яна, ці не, і гаворыць:

— Равесьніца тваёй хустцы.

Жанчына ўгневалася.

— Няхай сабе і равесьніца, але мая—на галаве, а тваё заткала на шляху валяецца і ніхто ня хоча браць такую брыду.

— Брыда, хай брыда, а знойдзецца—не бяда,—вясёла залаташыў Нічыпар.

— Хто пытае, той ня блудзіць,—сказаў Мікола, здалёк угледзіўшы капялюш.

— Тпрру!..

— Язык век па балоце скача і ня гразьне, дый яшчэ і ў Кіеў у карчму завядзе,—гукнуў і Нічыпар, таксама ўбачыўшы капялюш.

І Мікалай і Нічыпар пазлазілі з вазоў і разам працягнулі рукі да капялюша.

— Ня руш: гэта мая!—асекся Мікалай і тузнуў капялюш.

— Як-то твая? спытаў Нічыпар.

— А так мая: я п'яны быў і згубіў, вярнуўся і знашоў, дык, значыцца, мая!—упёрся Нічыпар.

— Ну, пусьці!—рвануў дужэй Мікалай.

— Фіў!—сьвіснуў Нічыпар, моцна трымаючы капялюш.

— Ня тузай, парвеш!—злаваў Мікалай.

— Ня рві, патузаеш!—перадражніў Нічыпар.

— Ось, як тузану, то ты і ногі задзярэш!—зусім узлаваўся Мікола і штурхануў Нічыпара плячуком. Нічыпар—Мікалая, і два гаспадары пачалі валтузіцца па полі, ня пускаючы з рук капялюша. Патаміліся абодва, як пеўні. Ні той, ні другі не аднімаў ад капялюша рук. Маўчалі і толькі цяжка саплі, як кавалёвыя мяхі.

— Што будзе?—спытаў Мікалай.

— Нічога ня будзе: адпачынем, дый зноў пачнём баранаваць,—адказаў Нічыпар:—я чалавек такі: біцца не хачу, су-

дзіцца ня люблю, і я, апроч таго, чалавек бывалы: быў у кузьні і ў млыне. І тут—гу! гу! і там—гу! гу!—і нічога разабраць не магу,—і пашоў і пашоў барабаніць Нічыпар.

Мікола перш слухаў, а потым стаў углядацца на тое, што яны трымалі.

— Ты што згубіў—шапку ці капялюш?

— Шапку,—адказаў Нічыпар.

— І я шапку. А гэта, брат, прыгледзься, зусім ня шапка, а дрэнь. І ты дурань, і я дурань.

— Ці-ж?

— На, бяры!—пусьціў Мікола капялюш.

Павярцеўшы ў руках, Нічыпар шпурнуў яго аб зямлю і зірнуў на Мікалая. Колькі момантаў яны ня спушчалі адзін з другога вачэй.

— Цьфу!

— Цьфу!

— Нічыпар?!

— Мікалай?!

— Бадай ты запаветрылася,—сказаў Мікалай:—хоць-бы ніхто ня бачыў! І што мы скажам ім, бабам?—заядуць!

— Ось паедзем у Паперню, аднак блізка, і надумаемся там, што казаць. Ня выпіўшы квасу, не патрапіш!

# ТАК І ТРЭБА АШУКАНЦУ

I

Канцэлярскі пісар Сьпірыдон Зручны, доўга не ўставаў з пасьцелі, хоць і даўно ўжо прачнуўся і выспаўся ў смак... У пасьцелі было так добра пацягвацца, пакачвацца і разважаць з самым сабою. Але калі ўжо шанцуе, то і ў лапцях танцуе: якраз прыпаў у гэты час сьвяты дзянёк. Работы ў канцыляры павятовага члена, дзе ён служыў, ня мелася. Дык чаго сьпяшацца? І Сьпірыдон ляжаў у сваім бярлогу пад дзяругаю, здаволены сабою і сваёю доляю. Гэтае здаваленьне павялічвалася яшчэ тым, што Сьпірыдону прысьніўся надта прыемны сон. На іншых момантах гэтага сну Сьпірыдон затрымаўся даўжэй і перажываў іх яшчэ і яшчэ. Што яму сьнілася, можна было толькі дагадвацца і то здалёк, кінуўшы на увагу, як ён, узяўшы са стала забруджанае мухамі „туалетнае зеркала“, пазіраў у яго, пакручваючы пяць сьветлых, пад колер сьмятаны, валаскоў пад носам: яны азначалі сабою Сьпірыдонавы вусы. На Сьпірыдона з люстэрка пазіралі такія-ж сьветлыя, як і вусы, вочы, сьветлыя бровы, якіх з першага погляду трудна было разглядзець. Адзін толькі нос-чаравік кідаўся кожнаму ў вочы і сваім доўгім, задраным угару канцом, афарбаваным пад бурачны квас. І дурню было ясна, што гаспадар гэтага носа дужа змагаўся з п'янствам, і змагаўся проста, адкрыта, чэсна, бяз усякіх там хітрыкаў—галялюшчыў гарэлку і толькі.

Сьпірыдон пазіраў у люстэрка доўга, покі не праканаўся, што ён—маладзец-малайцом. А то можа не? Чаго-ж на яго зазіраюцца „барышні?“ О, ён толькі ня хоча гаварыць, як ім цікавяцца, бо ён перш-на-перш чалавек сукромны, а другое—ведае сабе цану.

Невядома, да чаго дашоў-бы Сьпірыдон у сваіх думках, каб не адна праява, якая пакіравала і думкі і ўсю энэргію Сьпірыдона ў другі бок.

І вось з чаго ўсё гэта зачалося. Сьпірыдонаў нос—тут і мудруй, як хочаш—ні з таго, ні з сяго ўзяў ды засьвярбеў, засьвярбеў моцна, станоўка, зацяжна. Можа ён палічыў сябе пакрыўджаным відочным зьневажэньнем свайго гаспадара, які, пазіраючыся ў люстэрку, умудраваўся не замячаць такую важную асобу, якою быў ён—Сьпірыдонаў нос. Каму-ж міла такая няўвага. І вось гэты самы нос і напомніў свайму гаспадару, што ён, нос, не для якіх-небудзь жартаў займае сваё месца, што ён не дармаед і не батрак, а шчыры прыяцель і верны член у сям'і другіх членаў чалавечага цела, і што ён ня толькі нюхае ўсякую дрэнь і трымае соплі, а і яшчэ што-небудзь значыць. А які выпівака ня ведае, што азначае сьверб носа!

Ведаў гэта і Сьпірыдон. Ня ўсьпеў нос кончыць сьвярбець, як ужо прад вачыма Сьпірыдона ўстала бутэлька і чарка і мілая кампанія. Яшчэ ня было такога здарэньня, каб яго нос сьвярбеў калі так, на ўзьві-вецер.

Няпраўду кажуць, калі гавораць, што дзьве работы за раз рабіць ня будзеш. Сьпірыдон і аб гарэлцы думаў і нос чухаў. Чухаў яго Сьпірыдон далікатна, бокам пальца, а ня кіпцем, потым правёў па ім разоў колькі рукавом кашулі. А нос усё сьвярбеў на радасьць канцылярыстаму. Тады Сьпірыдон, прыцягнуўшы дзяругу, стаў шаргаць па ёй носам направа і налева, як шаруе сваім дзюбам варона, седзячы на страсе.

— А ўсё-ж такі і ўставаць пара,—сказаў Сьпірыдон і падняўся.

І дзе-ж то давядзецца выпіць?—думалася Сьпірыдону. У самога ня было і ломанага грошыка, сябры, з якімі ён кампанаваў, ня менш, як ён сам, прыслухоўваліся да сьвербу сваіх насоў, і ўсе свае надзеі таксама клалі на чужую кішэню. Ніхто не запрашаў яго да сябе, але вера ў выпіўку, з прычыны сьвербу носа, была такая вялікая, што Сьпірыдон ні на адзін момант ня думаў над тым, што нос засьвярбеў можа з другой прычыны.

Надзеўшы манішку і прычапіўшы гальштук, Сьпірыдон пачаў шворыцца па закутках сваёй кватэры, шукаючы сьне-

даньня. Адчыніўшы шкапік, Сьпірыдон перабраў колькі скамечаных паперак і толькі ў аднэй з іх знашоў акасьцянелы кусок каўбасы і скарынку зацьвіўшага хлеба. Сьпірыдон з мінуту пазіраў на каўбасу і на хлеб. Губы яго ўзварухнуліся, падаліся ўперад, нос яшчэ болей задраўся ўгару. Відаць было, што гэта сьнеданьне ня надта гарнула да сябе, і Сьпірыдон шпурнуў яго ізноў у шкапік. Раздабыўшы шклянку гарбаты, Сьпірыдон выпіў яе ў прыкуску, адзеўся, узяў зухаўскую палачку і вышаў на вуліцу.

II

Сьпірыдон нарыхтаваўся на глаўную вуліцу гораду N, куды выпаўзала ўсё панства-чынавенства. Наўперад трэба было прайсьці колькі глухіх, залітых гразёю вуліц, потым пратралявань праз рынак, дзе сягоньня быў кірмаш, і ўжо тады толькі можна было трапіць на „Неўскі".

Ціха і сьветла было на душы Сьпірыдона Зручнага, як у засеку багатага гаспадара на зімовага Міколу. Ось ён вышаў на такую часьць вуліцы, дзе быў паложан тротуар. Па другой старане вуліцы йшлі дзьве паненкі. Сьпірыдон нацэліўся ў іх і, апроч іх, нікога ня бачыў. А якраз на гэты час на спатканьне Сьпірыдону сунулася сьвіньня, якая толькі што выкупалася ў гразі.

Ці яна ня ведала, што спатыкала такую важную асобу, як наш Сьпірыдон, ці не хацела мачыць сваіх капыцікаў у гразі пасьля купаньня, ці проста па сьвінскай сваёй натуры,—толькі-ж яна палічыла лішнім схадзіць на бок і шарганулася бокам аб сінія джыгіналёвыя штанцы Сьпірыдона.

— А каб цябе халера!—у вялікім гневе крыкнуў Сьпірыдон і са ўсяго размаху сьвіснуў палкаю па сьвінячай сьпіне. Палавіна палачкі адляцела на вуліцу, а ў руках Сьпірыдона засталася крывулька. Сьвіньня толькі зьлёганька рохнула.

— Ну!

Здавалася, яна проста падумала, што паніч жартуе з ёю. А гэта яшчэ больш узлавала Сьпірыдона. Бедны ня ведаў, што рабіць. У першы момант хацелася пагнацца за сьвіньнёю. Можа-б ён і пагнаўся, ды на гэты час дзьве паненкі азірнуліся. Ну, куды-ж тут гнацца. Яшчэ падумаюць, чорт ведае што... Хоць-бы гарадавы здарыўся—можна было-б прахапіць яго, за чым

пазірае, чаму дазваляе сьвіньням шпацыраваць на тротуарах. А як нічога такоўскага ня было, то прыходзілася плюнуць і даваць якую раду сінім майткам. Глянуўшы навакол, Сьпірыдон заскочыў у краму, сяк-так выцер свае сінія нагавіцы і пашоў далей, прыглядаючыся зрэдка на пляму.

— Не! трэба прайсьціся рынкам, покі крыху абсохнуць,— сказаў сам сабе Сьпірыдон і зьвярнуў з тротуару.

Сьпірыдон ішоў памалу, дзе-ні-дзе нават застанаўліваўся, прыслухоўваўся да торгу, да гаворкі, каб пачуць што-небудзь сьмешнае і расказаць потым Кацярыне Паўлаўне. Рынак гуў тысячамі галасоў... Але ўсякі ведае, што робіцца на рынку, што можна там убачыць. Сьпірыдон прыпыніўся каля гуртка старцаў. Ох, і хітрэц гэты Сьпірыдон! Ці яму патрэбны старцы? Не! У грамадзе народу, што стаяў каля дзядоў, былі дзьве дзяўчыны-красуні, такія прыгожыя, сьвежыя, як майскія краскі. Спаміж старцаў выдзяляліся два. Сеўшы на сырой зямлі і неміласэрна круцячы галовамі, сьпявалі гэтыя старцы, палажыўшы перад сабою шапкі.

У аднаго старца была ў руках лера,—просты дзеравяны самадзельны струмант.

Таўстыя агрубелыя пальцы спаважна перабіралі струны. Мяккія жалобныя зыкі вылялі адтуль скрозь гоман кірмашны, смутным тонам урываліся ў душы, разьмякчалі сэрцы набожным кабетам, і многа рук даставала з-за пазухі вузельчыкі, каб кінуць свой працавіты мядзяк у старэцкую шапку.

Другі старац, ні на кога ня гледзячы, у тахт леры пяяў громкім прыемным голасам, і выходзіла прыемная музыка. Але Сьпірыдон ня слухаў старцаў. О, у Сьпірыдона вуха наравістае: ён чуў артыстаў-цыганоў і сам сьпяваў раманцы, як, напрыклад:

„Пад душыстаю веткай сірэні!“

Дык дзе яму слухаць старцаў. А калі і стаяў тут, то меў на гэта свае прычыны: збавіць час, высушыць пляму на майтках і, самае галоўнае, міргнуць разоў пару гэтым мілым вясковым красуням. Красуні зараз-жа сьцямілі Сьпірыдонавы погляды і пачалі перашэптвацца. Сьпірыдон выцяг шыю, наставіў вушы, каб улавіць іх гаворку, бо знаёмства бадай што завязана.

— Ось,—гаворыць адна:—у гэтага паніча нос! Хоць бяры ў прымы! такі нос, што і матыкі ня трэба асыпаць бульбу.

Гэтага ніяк не чакаў Сьпірыдон. Покі ён разважаў, як тут быць, нос сам сабою недавольна пацягнуў паветра, пачырванеў ад крыўды і сораму.

Эх, пракляты нос! колькі за яго прышлося выцярпець. Каб ня чуць яшчэ якіх жартаў, наш кавалер павярнуўся і пашоў далей.

Можна быць пэўным, што Кацярына Паўлаўна не пачуе сягоньня сьмешнага апавяданьня.

III

Дзень кончыўся ня так, як зачаўся. Да чаго прыраўняць гэты дзень? Ён падобны да цэлага веку чалавечага. Хто з нас, браты мае, стоячы на парозе сваёй вясны, не парываўся, увесь аддаўшыся ў абладу сьветлым марам, у невядомую даль? Хто ня імчаўся, як вол у часе гізу, задраўшы хвост, на спатканьне ўсякім прыгодам-нягодам? Ці ня гэтак і Сьпірыдон зачынаў сягоньняшні дзень? Ці ня імчаўся і ён, як той вол, туды, куды цягнуў яго сьверб носа? Але хоць мы, далёка пакінуўшы за сабою вясну свайго жыцьця, часта сядзімо каля гнілога карыта растрэсеных думак і абманных надзей, усё-ж такі мы любоўна глядзімо на нашу моладасьць, і сэрца наша гатова плакаць па ўтрачанай вясьне, і нам хочацца гукнуць:

„Пастой, вясна, не пакідай нас, вярніся яшчэ хоць на момант!“

У Сьпірыдона і гэтага ня было нічога. Няўжо быў ён рады ў гэты дзень? Няўжо гэта ён ляжаў, пазіраўся ў люстэрку, поўны радасьці і сьветлых думак?

Сьпірыдон, залажыўшы рукі за сьпіну, хадзіў з вугла ў вугал сваёй няцікавай кватэры і падводзіў рахункі гэтаму дню.

Дрэнны дзень! Каб можна было, то Сьпірыдон скасаваў-бы яго, выкінуў-бы з кнігі сваёй памяці. Але пражыты дзень гэта ня тое, што прыгавар уезднага члена: прыгавар можна спаліць—і ўсё прапала, зрабі толькі гладка. І які гэта дурань сказаў, што добры пачатак—палавіна справы!..

Не! што ні кажы, а ён павінен быў вярнуцца, спаткаўшы сьвіньню. І што робяць вучоныя? Чаму яны не прасьцерагаюць людзей? Каб Сьпірыдон быў профэсарам, то ён вучыў-бы, усім

казаў-бы: „Калі ідзеш на каханьне, а табе сьвіньня на спатканьне,—вярніся і сядзі дома“. Чаму ён не вярнуўся, тым болей, што ён ясна чуў у сабе голас: „Сьпірыдон, вярніся! Сьпірыдон, вярніся!“ Дык не паслухаў-жа. Ну і чорт цябе бяры!—угнявіўся Сьпірыдон на сябе самога.

Ну, і Кацярына Паўлаўна! Справядліва паглядзеўшы, дык не такая яна ўжо краля. Каб і Сьпірыдон спаліў скрыначку запалак і пашмараваў імі бровы, то меў-бы яшчэ можа чарнейшыя, як у яе.

Пры гэтым Сьпірыдон усьміхнуўся: узяць-бы гаршчок, насыпаць поўны сапухі, наклеіць на ім паперку з напісам: „Кацярыне Паўлаўне. Мазь на бровы“,—і паслаць ёй. Нашмаруецца, напусьціць пэйсы і думае, што яна няма ведама што. З землямерам пазнаёмілася! Ані прыступу! На казе не пад‘едзеш! Басэтля!

„Вы, мусіць, з сьвіньнёю вальц танцавалі!“ Ніяк ня мог дараваць ёй Сьпірыдон гэтага насьмяханьня. І каб што людзкае, а то—як ступа, ходзіць, як на кандыбах. Нос—зьвяно. Але, як толькі дашоў Сьпірыдон да носа, то яшчэ большая паднялася ў ім бура. І гэта было сягоньня. Спаткаліся з пісцом з Управы, і яшчэ былі знаёмыя. Выпіць усім хацелася, але ўсе, як бацы, голыя. Упраўскі пісец і гаворыць Сьпірыдону:

— Ведаеш, Сьпірыдон Марцінавіч?

— Што?

— Давай зробім комэрцыю: барыш будзем піць!

— Ну?

— Мяняймася на насы!

— Цьфу, гад печаны! Выдумаў!—Сьпірыдон ясна паказаў, што гэткія жарты выдумляе толькі дурніца. А той уляпаў сваё, як сьвіньня ў гарох.

— Колькі дасі прыдатку?

— Няхай табе дасьць бог скулу, дурань! На чорта мне твая булбатка? — стараўся жартлівым тонам сказаць і Сьпірыдон.

— Чым-жа кепска булбатка? Не спадабаецца, даў пстрычку і па ўсім. А папрабуй панасіць такі пранік, як у цябе—карк адцягне. Дык што: менькі?

Панастаяшчаму варта было плюнуць у морду і ўсё.

Сьпірыдон хадзіў з вугла ў вугал. У жываце было пуста, як у беднага гаспадара ў засеку вясною, моташна, як у каталажцы.

Зноў зашуршэлі паперкі ў шкапіку, зноў пачаў перабіраць іх Сьпірыдон. Знашоў ён ранішнюю скарынку і кусок каўбасы. Хлеб скрыпеў у зубох, як нямазанае кола. Каўбаса ніяк не жавалася; толькі сьліна цякла, а толку ня было. Выплюнуў яе Сьпірыдон у руку, паглядзеў, размахнуўся і ляпнуў ёю з-за пляча вобземлю, яшчэ і камашам прыдавіў.

Злосьць апанавала Сьпірыдона. Ну, і жыцьцё, каб ты спруцянела! Сьпірыдон прысеў каля стала. Колькі мінут сядзеў ён не варушачыся. Потым вочы яго падняліся і зірнулі ў люстэрка.

— У-у-у! мардасіна!

Можа-б і абышлося ўсё, бура ўлеглася-б і Сьпірыдон заспакоіўся-б, але гэты прахвост, нос, як зумыслу, зноў засьвярбеў таксама, як і раніцай.

— Не, брат! Няма дурных!—злорадна сказаў Сьпірыдон.

Задраў ён угару галаву, прыплюшчыў крыху вочы,—нос яго са страху зморшчыўся так, што і зубы выскаліліся. Потым прыгнуў Сьпірыдон сярэдні палец правай рукі да вялікага пальца.

Троп! троп! троп!—паняслося па пустой кватэры.

— Так табе і трэба, ашуканцу!—сказаў Сьпірыдон, даўшы тры пстрычкі ў свой уласны нос.

# ЗЛАВІУ

Дапісаўшы апошні радок прызыўных сьпіскаў, пісар, Павал Дуруңдовіч, разагнуў сьпіну і далёка працягнуў пад сталом ногі.

— Канец, і пісару слава!—сказаў пісар і шпурнуў на стол ручку. Зірнуўшы на гадзіньнік, ён борзда падняўся, сказаўшы:

— О-о-о!

Было каля поўначы. Стораж Грыгор даўно ўжо спаў, разваліўшыся на падлозе зборнай каля дзьвярэй. З таго кутка, дзе ён спаў, няслося столькі ўсялякіх зыкаў, што трудна было паверыць, каб гэтыя зыкі вылятаді з аднаго чалавека.

Цяпер толькі пісар зьвярнуў на гэта увагу і, зачыняючы шафу, сказаў, зірнуўшы ў бок стоража:

— Маладзец: сам іграе і сам сабе ўтурыць! Ігрышча дый годзі!

У спальні пісара даўно ўжо чакаў ложак з мяккім матрацам і з высока ўзьбітымі падушкамі. Запаліўшы сьвечку, пісар разьдзеўся і лёг у пасьцель, згайдануўшыся разоў пару.

— Харашо, чорт вазьмі!—сказаў пісар, пацягваючыся, і прыемнае пачуваньне агульнага здаваленьня ахінула ўсё яго цела.

Патушыўшы сьвечку, пісар да грудзей толькі нацягнуў лёгкую коўдру, бо на дварэ і ў хаце было душна, як у лазьні.

Колькі мінут пісар ляжаў спакойна, думаючы аб сім і тым. Яму было добра: няпрыемная работа—прызыўныя сьпіскі—закончаны: земскі начальнік знашоў усё ў парадку; рэвізія таксама нічога кепскага не знашла. Адным словам, пісар папаў у тую паласу жыцьця, калі чалавеку шанцуе і ўсё ідзе, як па пісанаму. І сон, салодкі сон, з мінуты на мінуту гатоў быў замкнуць яму вочы.

Але чуць толькі стаў ён драмаць, як па яго сьпіне борзьдзенька прасунулася маленькая, чорная, жвавая жывёлка, усё роўна, як там закраўся чарток і паказытаў яго каласком.

Пісар цопнуў усёй жменяй па тым месцы, дзе прапоўз няпрошаны госьць, моцна націснуўшы на сьпіну. Маленькі вораг пстрыкнуў і прапаў.

Чутачку счакаўшы, зноў пачуў пісар лёгкі сьверб, ужо на назе, як-бы хто запускаў туды павольненька тонкую голачку. Прыгнуўшы нагу, каб спрытней было злавіць скочку, пісар раптам накрыў пальцамі сьвярбеўшае месца і, крэпка націснуўшы, павёў па назе. Праклятая жывёлка зноў уцякла. Не пасьпеў ён як мае быць пачухаць нагу, як у яго засьвярбеў зразу і карк і бок, цяпер ужо шмат мацней, як-бы яго секанулі крапівою. Сон пісараў адразу прапаў.

— Бадай вас агонь высмаліў, як вы смаліце,—сказаў пісар, з сілаю хапаючыся за карк.

Пісараў карк быў валасаты. Ловячы блыху, ён няўмысьля скрабянуў сябе за валасы, ды так моцна, што чуць ня крыкнуў ад болю. Гэтак, бывала, як ён быў малы, нябожчык дзядзька яго паказваў яму, „як даюць квасу“. Уся гэта гісторыя кончылася тым, што пісар узлаваўся.

— А, каб вас маланка папаліла!—сказаў ён і падняўся.

Абмацаўшы на століку запалкі, пісар запаліў сьвечку і адвярнуў коўдру. Жвавыя скочкі разам скаканулі ва ўсе бакі і пахаваліся; толькі адна разы тры кульнулася па падушцы, і пісар разы тры накрываў яе рукою, але спрытная скочка кожны раз шчасьліва выкручвалася ад сярдзітай пісараўскай рукі. Ператрос ён усе бэбахі на пасьцелі, але нічога не злавіў. Хоць-бы адна гадаўка папалася, хоць-бы злосьць спагнаў. Абрэвізаваўшы пасьцель і ўласныя пазухі, пісар зірнуў на сьцяну. Там павольна, не сьпяшаючыся, поўз клоп. Здавалася, што ён сабраўся ў вялікую дарогу, толькі што ня было ў яго палкі і клумка.

— А, гад! А пашпарт у цябе ёсьць?—спытаўся пісар і падскварыў яго сьвечкаю.

Падняўшы сьвечку ўгору, пісар азірнуў увесь пакой. Праз вокны глядзела чорная ноч. Вакол была ціха. Толькі з другога

ложка данасілася мернае сапеньне яго жонкі, ды з-за сьцяны Грыгор не пераставаў спраўляць ігрышча.

— І скочкі іх ня кусаюць,—пазайздросьціў ім пісар і зноў патушыў сьвечку.

Колькі моманту пісар ляжаў з адкрытымі вачыма. Сон ужо ня йшоў да яго. Але памаленьку ён зноў пачынаў сьцішвацца; напалоханыя блохі прытаіліся і покі што не чапалі пісара, і ён ужо забываў пра іх. Як-бы гэтага толькі яны й чакалі: толькі што ён павярнуўся на другі бок, як нешта крэпка-пякуча ўкусіла яго за жывот. Пісар увесь аж падскочыў.

— Ах, каб вас халера ўзяла!—лаяўся пісар. А тут за сьцягняк як утне.

— Бадай вас маланка папаліла, а бадай вас пярун пабіў!—сярдзіта бубніў пісар і варочаўся, як мянёк на скавара-дзе. Цяпер пісар не пасьпяваў чухаць пакусаныя месцы. Усюды яго цялі: за ногі, за рукі, за сьпіну й бакі. Павёўшы праваю рукою па левым баку, пісар абмацаў нешта і крэпка прыдушыў пальцам.

— Трасцу ты цяпер выкруцішся!—злорадасным голасам гаварыў пісар.

Схапіць у пальцы ён не адважыўся, бо чуў, што варта толькі зьмяніць палажэньне пальца, як яго здабыча ўцячэ. А пусьціць яе шкада: яна адна можа дваццаць раз укусіла яго Трэба злавіць, брыду, і хоць пазьдзекавацца з яе.

Якраз прачнулася і жонка.

— Ты ня сьпіш, Оля?—пытае пісар жонку, не адымаючы рукі.

— Не!

— Дык устань, брат, запалі сьвечку і падыйдзі сюды.

— Што там у цябе?

— А вось ідзі—будзеш ведаць.

Жонка паднялася з пасьцелі.

Запаліўшы сьвечку і зірнуўшы на пісара, як ён трымаўся за бок, жонка была спалохалася. Але пісар быў здароў, бо пазіраў вясёла, як і ўсякі, хто злавіў злодзея.

— Ты ведаеш, Оля, качаюся гадзін дзьве, ніяк не засну. Блох у нас, як пяску. А цяпер я нешта злавіў, і чорт яго ведае што.

— Адкуль тыя блохі? Хіба клешч, бо ты-ж любіш гэтыя маёўкі ў лесе. Пакажы!

— Сьвяці-ж сюды!

Сабраўшы ўсе сілы, пісар яшчэ раз прыдушыў свайго ворага і паволі стаў браць пальцамі. Увабраў. Пацягнуў—не адрываецца.

— Клешч, каб ён згарэў!—сказаў пісар.

— Пакажы,—прамовіла жонка і нагнулася, а пісар адняў руку.

— Ну?

— Цьфу, дурань, гэта-ж барадаўка!

# ТОЎСТАЕ ПАЛЕНА

I

— Не! я яго такі жыцьця рашу. У катаргу пайду, а галаву яму скручу!

Злосна прашоўся Паўлюк па хаце і з сілаю шпурнуў на лаву рукавіцы.

Жонка, стоячы з вілкамі каля печы, так і застыла. У чыгунчыку пабегла зацірка, а яна ўсё стаіць, слухае, чаго крычыць Паўлюк і хто яго так угнявіў.

Паўлюк Трывай толькі што прыехаў з лесу. І трэба-ж было чэрцям нагнаць на гэты час аб'езчыка на камору! Знашоў адно паленца таўсьцейшае процi меры, і ён з-за таго паленца абярнуў увесь воз дроў!

— А каб на цябе ліха абярнулася, трасца тваёй матары, гад ты печаны! Каб табе мазгі зьвярнуліся!—ніяк ня мог успакоіцца Паўлюк.

— Гэта ўсё Сучынскі?—пытае жонка.

— А няўжо-ж хто. Ён!

— От гад! Праўдзівы сабака. Вельмі верны служака. Усё роўна пойдзеш к чортавай матары, басяк! Думаеш мiласьць заслужыш у князя? А як-жа! Расчыняй губу!

Паўлюк тымчасам сьціх.

Сядзіць над міскай з гарачым квасам і думае, відаць, важную думку, бо ўжо заметна было, як хадзілі яго скiвiцы: ня так проста, як звычайна, а нейк трохі наўкруг, як жорны.

І праўда—Паўлюк думаў. Думаў, як злавіць Сучынскага і паказаць яму гэта палена на яго ўласнай скуры.

II

Прашло ўжо з тыдзень часу, а злосьць Паўлюка на аб'езчыка Сучынскага ўсё не астывае. Дый як ёй астыць, ска-

жэце? Пойдзе Паўлюк ранкам даваць каню сена, пападзецца пад ногі палена і лішні раз напомніць Паўлюку тое тоўстае палена, з-за якога яму Сучынскі зьвярнуў на каморы дровы. І дзе ён не павернецца, то ўсюды так ці йначай натыкаецца на праклятае палена. Пойдзе к суседу, там якраз на дрывотні пілуюць палена. Зойдзе ў хату,—у хаце суседзкая жонка, як зумыслу, гаворыць:

— Ото-ж якое тоўстае палена! І ў печ ня ўправіш!

Выйдзе Паўлюк на вуліцу, там які-небудзь сабакар ганяецца з паленам за сабакамі.

Палена, палена і палена! Бадай вы пагарэлі! Як-бы на сьвеце больш і няма нічога, апрача гэтага палена. А ляжа Паўлюк спаць, прад вачыма так і стаяць палены.

—Ну-ж, гад! Не дажджэ твае ліха!—скрозь зубы цэдзіць Паўлюк і варочаецца на другі бок.

— Мамка!—крычыць дзесь у кутку малы хлопчык, сын Паўлюка:—я скачваюся; ці німа чаго палажыць збоку?

— Зьлезь, сынок, пашукай каля печы палена і падлажы пад сяньнічок,—адзываецца з-пад бараxла маці.

Паўлюк сярдзіта варушыцца на пасьцелі і стогне, як зьвязаны стары маркач, каторага стрыгуць. А хлопчык ужо шворыцца каля печы.

— Чорт іх ведае; якія тут палены!—бунтуецца хлопец:— усё нейкія так плашкі, каб дзе знайсьці крыху таўшчэйшае.

— Пашоў спаць! сну на цябе няма!—не вытрымоўвае Паўлюк і падымае галаву, а сын, узяўшы палена, шыбуе ў запек і грукае паленам на ўсю хату.

Паўлюк успамінае Сучынскага і ад злосьці скрыгіча зубамі.

— Што ты, Паўлюк, скрыгічаш?—пытае, лежачы збоку, жонка.

— Нешта, падла, зуб заныў,—лжэ Паўлюк, каб адчапіцца, і варочаецца ад жонкі ў другі бок.

— А ты вазьмі сьцюдзёнай вады; там каля парога стаіць на палене,—радзіць Паўлюку жонка.

— Сьпі лепш!—сьцяўшы зубы, гаворыць Паўлюк.

Патрошку ў хаце ўсё заціхае, і салодкі сон усім замыкае вочы. Адны толькі насы зайгралі цяпер на ўсе галасы. Адзін нос тоненька высьвіствваў:

— Э-ге! Э-ге!

Другі жаласна ныў, як малады каршун у гнязьдзе.

— Фю! Фю!

Нос самога Паўлюка йграў тоўста, з лёкатам і перабоямі, як бусел над маладымі бусьлянятамі. Так і відаць было, што гэтак можа йграць толькі гаспадарскі нос.

Паўлюк спаў, але і сплючы ня мог ён збавіцца ад праклятага палена. Прысьніўся яму сон. Здаецца, едзе ён з лесу, вязе дровы. Спатыкаецца Сучынскі, і Паўлюк, многа не гаворачы, падыходзіць да аб'езчыка і—трах яго па мордзе! Завязалася бойка. Пакаціліся яны абодва на зямлю, а аб'езчык, кідаючыся, наваліўся Паўлюку на ногі. Паўлюк хоча іх выслабаніць і ня можа: замест Сучынскага, зрабіўся тоўсты кругляк. Паўлюк мардуецца, вырабляецца, спацеў увесь, робіць апошняе натужаньне, моцна варушыць нагамі.

Тут—грук яму жонка ў плечы!

— Га? што!—усхапіўся Паўлюк.

— Чаго ты трапечашся? бяз мала галёнкі мне не перабіў!

— Добрая галёнка—чуць ног не павыкручваў.

III

Было яшчэ рана,—чэрці на кулачкі ня выходзілі, як прачнуўся Паўлюк і аслабаніўся ад „тоўстага кругляка". Сон яго ўжо разагнаўся, і як Паўлюк ні плюшчыў вочы, заснуць ужо ня мог.

— Што-ж? трэба ўставаць,—рашыў Паўлюк і падняўся.

Абуўшыся і апрануўшыся, пашоў ён у гумно. Праз паўгадзіны з току данасіўся мерны стук адзінокага цэпа. На таку ляжаў пасад жыта ў восем снапоў, паложаных па пары, каласы з каласамі. Паўлюк пачародна абіваў цэпам то адзін, то другі снапок і паволі, ды заложна, наступаў ён на снапы, зрэдка чуць падаючыся назад, каб спрытней было выбіць зярняткі, але, у агуле, ён усё йшоў уперад, аж покі не даходзіў да апошняга снапка. Тады ўжо ён, зьлёгка стукаючы цэпам, адыходзіў назад, прыбіваў каласкі. Абабіўшы адзін бок снапкоў, ставіў цэп, варочаў іх на другі бок ды зноў такім-жа парадкам калаціў іх. Акалаціўшы, разьвязваў, зьнімаў перавяслы, расьсьцілаў снапкі ў пласты, зноў біў, зноў варочаў, вытрасаў кулі, мяў салому і так да канца, покі не канчаў усяго пасаду.

Малоціць Паўлюк, а думкі так і варушацца ў яго галаве. Думалася пра сон,—ніяк ён ня выходзіў з галавы, пра аб'езчыка Сучынскага, аб тым, як і дзе яго злавіць і хоць-бы ў смак паабіць гада. Забудзецца Паўлюк, думаючы аб Сучынскім, і так пачынае жарыць цэпам, што сноп падскаквае ўгару. Паўлюк у гэты момант думае аб тым, як ён біў-бы Сучынскага. Зьвязвае куль, і яму здаецца, што ён паваліў аб'езчыка і душыць яго. Паўлюк забываецца да таго, што перавясла трашчыць у яго руках і рвецца. Потым Паўлюка пачынае займаць думка, як залучыць аб'езчыка ў свае лапы.

Папільнаваць яго ў лесе? Дык чорт-жа яго ведае, калі ён будзе ехаць або ісьці, ды ў лесе яшчэ хто наткнецца, а пры людзях такія справы ня робяцца.

Падгаварыць хіба нававбранцаў, каб аб'юшылі яго, як будуць ісьці на прызыў. Але для гэтага трэба ня менш гарца гарэлкі дый трудна зрабіць так, каб людзі ня зналі яго намовы. Не! калі рабіць, дык трэба зрабіць гладка, так, каб і камар носа не падтачыў.

А як зрабіць?

І зноў завярцеліся Паўлюковыя мазгі, пашлі выдумліваць хітрыя сеці, у якіх павінен быў заблутацца Сучынскі.

А каб проста падпаліць гада?

Што-ж? падпаліць ня штука, але ці хваціць розуму і хітрасьці схаваць канцы ў воду? Ды што ў яго ёсьць? Згарыць будынак, дык будынак скарбовы, на руку будзе скарбу: страхоўку возьмуць і яшчэ падзякуюць, а самога зловяць—і прашчай крама з таварамі! Паўлюку ўжо страшна стала, як успомніў, як білі і засудзілі за падпал Трахіма Скарача. Не! і гэта не гадзіцца. І яшчэ многа спосабаў перадумаў Паўлюк, ды ніводзін не здавольваў яго.

## IV

Нічога ня прыдумаў Паўлюк за ўсю раніцу. І злосьць яго брала, што нічым не дапячэш Сучынскага. Але яму тут памог сусед, Сьцёпка Навой; памог зьнячэўку і ў мысьлях ня маючы таго.

Гэта было ў панядзелак.

Прыходзіць да Паўлюка Сьцёпка пазычыць паўвасьміны. Затрымаўся трохі, разгаварыліся. А Сьцёпка якраз быў у нядзельку на рынку, хадзіў з жонкай купляць лён.

От і расказвае Сьцёпка, як у хаце крамніка Хацкеля сяляне пабілі паліцэйскага стражніка. Пятрусь Камар з Яблонаўкі і Мікіта Трацяк з Малой Слабодкі зашлі да Хацкеля выпіць па чарцы... Ну, ці мала які можа быць у людзей інтэрас? Сядзяць сабе яны, выпіваюць. Уходзіць стражнік, садзіцца каля стала, за якім сядзелі Пятрусь з Мікітай,—прыляпіўся, як той клешч да сабачага вуха. Ня гнаць-жа чалавека вон ад стала. Налліваюць і яму чарку, бо ўсякая, лічы, вантроба прагне гарэлкі. І ў стражніка была гэта вантроба, і ён таксама быў ня промах нашчот гарэлкі, асабліва, калі гарэлка гэта нічога не каштуе.

Выпілі адну паўпляшку, выпілі другую, разьвязаліся языкі, зьявілася і рызыка.

— Ну, што-ж?—гаворыць Мікіта стражніку:—ты з намі піў, стаў цяпер і ты.

— А ты знаеш, з кім ты гаворыш?—пытае стражнік.

— Даволі зірнуць на тваю мардасіну, каб ведаць, якая ты штука,—адказвае Мікіта, падпёршы рукою левы бок.

Слова за слова, завязалася сварка, а потым і бойка. Стражнік хацеў хапіць шаблю, але Патрусь, як клешчамі, сьціснуў яго за плечы.

— Нічога не паможа табе гэта трапло,—гаворыць Пятрусь, ды разам з Мікітай паваліл і яго на зямлю і давай мясіць. Зьбілі на горкі яблык. А Мікіта яшчэ адрэзаў рамень ад шаблі, сказаўшы:

— Добра будзе вушкі паўстаўляць у лапці.

Паўлюк слухаў, не прапусьціўшы ніводнага слова.

— І суду ня будзе?!—спытаўся ён.

— Які суд? Чалавек ты! Пабіліся п'яныя, от і ўсё,—гаворыць сусед.

Выслухаўшы расказ суседа, Паўлюк павесялеў: яму прышла ў галаву мысьль, якую ён так доўга шукаў і ня мог знайсьці.

## V

Спосаб быў знойдзен.

Цяпер астаецца залучыць на кірмашы аб'езчыка, завясьці яго куды-небудзь да Хацкеля ці Каца, напаіць, і тады можна будзе парахавацца.

У першую нядзельку адлажыў Паўлюк паўрубель грошай на гарэлку, якую ён вып'е з Сучынскім, запрог коніка і ўжо сабраўся ехаць. Неспакойна трохі было на сэрцы ў Паўлюка, дый злосьць яго стала праходзіць, і ён гатоў ужо быў плюнуць і на той воз дроў, што на каморы абярнуў яму аб'езчык, і на самога аб'езчыка. Але, як ён у той час выяжджаў са двара, жонка, выткнуўшыся з сяней, гаворыць да яго:

— Зайдзі, Паўлюк, у лясьніцтва і вазьмі асыгнату, бо скора ня будзе чым выпаліць у печы: скінулі-ж табе на каморы дровы.

Як шылам, парнулі Паўлюка гэтыя дровы.

— Але! гэта-ж я й забыўся, што дроў няма ні палена,— сказаў Паўлюк і ўзяўся за кішэню; абмацаў паўрубель, завязаны ў анучыну, той паўрубель, які назначаны быў споўніць такое важнае назначэньне. У другім вузельчыку ляжалі два злоты на крупы, саракоўка на тараны і селядцы; залатоўка на соль і газу; дзьве дзесяткі і чатыры грошы на вобмешку япручку і яшчэ некалькі медзякоў на тытун і запалкі.

А за што ўзяць асыгнату на дровы? Хіба за гэты паўрубель? Паўлюк на момант задумаўся, а потым сьцебануў пугаю каня і паехаў сярдзіты і недавольны. Зноў ня было спакою на душы ў Паўлюка, зноў прад вачыма стала тоўстае палена, воз дроў, аб'езчык, камора.

— Хіба ты скрозь зямлю праваліўся! Будзеш ты ў мяне помніць гэта палена: бокам яно табе вылезе,—гаварыў сам сабе Паўлюк, згортваючы руку ў кулак.

Невясёлыя думкі насіліся ў Паўлюковай галаве. І навокал было так нярадасна і няпрыветна, як у Паўлюка на сэрцы. Дзьмуў халодны вецер, зьмятаў з узгоркаў сьнег і агаляў пяшчаныя іх скаты. Дзе-ні-дзе ў полі па межах стаялі адзінокія грушы і сіротліва махалі сваймі голымі галінамі, пацёпваючыся, як пажылыя кабеты з холаду. Там і сям параскідаліся па полі каменьні, як сьвіньні, і маўчліва ляжалі і мерзьлі на марозе.

„Ім усё роўна, цяпло ці холад. Скаці іх на загон,—будуць ляжаць на загоне, нікому не пажаляцца на сваю долю", думаў Паўлюк, пазіраючы на гэтыя каменьні. Малады хвойнік рэзка выдзяляўся сваімі зялёнымі вярхамі на сьнежным полі і

гультаежліва падымаў і апускаў свае непаваротлівыя лапы, усё роўна, як за каўнерам іх нешта кусала. Дарога, ідучы ў лес, станавілася гладкай і роўнай. Конік вясёла пырхаў і рэзва перабіраў сваймі тоўстымі нагамі. Аднатонны шум лесу закалыхіваў памаленьку Паўлюковыя думкі і спакоіў яго душу. Паўлюк дастаў кісэт, падарунак жонкі, як яна яшчэ была дзяўчынай, люльку, выкрасіў агню і закурыў. Сіняваты дымок уздымаўся клубочкамі па сьвежым паветры і борзда прападаў, а разам з ім прападалі і трывожныя думкі Паўлюка. Цяпер Паўлюк быў спакоен, як чалавек, які цьвёрда, раз на заўсёды, пастанавіў сабе вядомую мэту.

А правучыць гада ня шкодзіць!—закончыў Паўлюк сваю раздуму аб Сучынскім і грозна пагнаў свайго коніка.

## VI

Яшчэ за паўвярсты ад мястэчка Паўлюка сустрэла жыдоўка з трыма пеўнямі пад пахай і запытала:

— Цалавек! моза маес сто на продаз?

Паўлюк толькі зірнуў, але нічога не сказаў. З усіх старон у мястэчка паўзьлі, як мурашкі, хурманкі і вязьлі розныя тавары. Усё места было ўжо ўстаўлена вазамі. Між гэтых вазоў прабіраўся Паўлюк да свайго зямляцтва. Там было ўжо многа мужчын і жонак з іх сяла. Залажыўшы ў кішэні рукі, з люлькаю ў зубох стаяў каля сваіх саней Антось Дубок, голасна гаварыў, рагатаў раскацістым сьмехам і ўсякаму, хто з ім не згаджаўся, сьмела кідаў:

— А ну, давай заложымся!

Але ахвотнікаў ісьці з ім у заклад ня было, а некаторыя проста раілі Антосю Дубку залажыць за губу рэч ня надта самавітую.

— Во!—весела крычаў Антось:—збаяўся!—і выставіўшы жывот-ночвы, закідаў угару галаву і зноў рагатаў. Паўлюк спыніўся, выпраг каня, павесіў яму торбу з сечкай і азірнуўся. Народу было поўнае места, але настаяшчы торг яшчэ не пачынаўся. Увесь рынак можна было падзяліць на некалькі малых рынкаў. Кожная вёска занімала асобнае месца, куды і прывозіла свае тавары. У вадным месцы стаялі вазы з цэбрамі, ражкамі, паўвасьмінамі; у другім—з дровамі, дошкамі; у трэ-

цім—з льном; у чацьвертым—са збожжам. Сярод рынку стаялі гаршчкі, міскі, збаны, лыжкі. Тут-жа дзе-небудзь раскладваў свой тавар рускі, які таргаваў абразкамі й кнігамі.

Людзкі гоман, піск сьвіней, парасят і ўсякай жывёлы зьліваўся ў адзін нястройны гул. Там і сям віднеліся сінія шапкі і чырвоныя шнуры.

Торг памалу пачынаў ажываць. Між вазоў шворыліся розныя купцы і перакупшчыкі. То там, то сям стаялі кучкі жыдоў і сялян. Адзін сівабароды жыд так заядла таргаваўся, так выкрыкваў і біў сябе кулаком у грудзі, як-бы яму зрабілі кроўную крыўду. Каля крам хадзілі некалькі жанок, шукаючы сваіх мужыкоў. То адна, то другая пыталіся сваіх знаёмых.

— Ці ня бачылі майго Грыгора?

А Грыгор у гэты час сядзеў ужо каля бутэлькі і варочаў п'янымі вачыма.

У вадным месцы адно праразьлівае п'янае горла крычала:

— Ты мой наймілейшы прыяцель!

Другое, хрыпатае, лаялася апошнімі славамі, лезучы да першага цалавацца:

— Братка ты мой, халера ты!

Але ня гэта займала Паўлюка. Ён стаяў адзін і пільна прыглядаўся, ці ня згледзіцца дзе шапка з зялёным вярхом. Ужо трох лясьнікоў ён чуць быў ня прыняў за аб'езчыка, і кожны раз ёкала яго сэрца.

— Што-ж гэта ня відаць яго, смрода?—пытаў сам сябе Паўлюк.

— А! унь ён.

Паўлюк аж задрыжаў: у трох кроках ад яго стаяў Сучынскі.

Азіраючыся навакола, Паўлюк сьмела ідзе да аб'езчыка. Ён даўно ўжо выдумаў хітры плян, як залучыць свайго ворага ў патайную краму шынка Шварца, у якім быў прыпынак усіх заядлых выпівак.

— Я хачу з панам пагаварыць,—сказаў Паўлюк, падышоўшы да аб'езчыка, пры гэтым ён пастараўся зрабіць, як можна, добрую і прыветную міну.

— Аб чым?—пытае аб'езчык.

— А вот...—Паўлюк трохі замяўся і боязна азірнуўся на ўсе бокі.

— Мо-б мы з панам зашлі куды-небудзь?

— Куды-ж мы зойдзем?

— Ды зойдзем хоць да Шварца.

Аб'езчыкаў нос зразу зьнюхаў гарэлку.

Мужчыны пашлі,—Паўлюк уперадзе, а за ім Сучынскі.

Усе каморкі ў Шварца былі набіты народам; на падлозе валяліся коркі ад піўных бутэляк; пахла гарэлкаю і селядцамі.

Паўлюк выбраў цёмную каморку і аставіў аб'езчыка, а сам адлучыўся зрабіць заказ нашчот выпіўкі.

Покі Шварц шворыўся з выпіўкаю і закускаю, мужчыны гаварылі аб розных справах: аб тым, як цяпер усё стала дарага, якія пашлі парадкі, успаміналі даўнейшыя часы і г. д.

Тымчасам Шварц прынёс кварту, дзьве чаркі і два селядцы на талерцы. Паўлюк наліў чаркі.

— Будзьма здаровы!—сказаў Паўлюк, узяўшы чарку і матнуўшы да аб'езчыка галавою. П'ючы Паўлюк зірнуў на аб'езчыка і сашчаміў пад сталом кулак.

Аб'езчык толькі што пасьпеў ткнуць у селядца відэльцам, як Паўлюк наліў яшчэ па чарцы.

— Хто закусвае посьле аднэй чаркі? Будзьма здаровы!

Выпілі яшчэ па чарцы.

Гарэлка сагрэла Паўлюка, і прыемная цеплата пашла па ўсім яго целе. А як бутэлька спаражнілася да палавіны, Паўлюку надта весела стала на душы. І людзі ў яго вачох зрабіліся другімі, і яго ўласнае жыцьцё стала лёгкім і прыемным.

— А ўсё-ж я табе паб'ю рыла! дальбог паб'ю,—гаварыў сам сабе Паўлюк і шчыкаў сам сябе за сьцягняк.

Выпілі яшчэ.

— Здаецца, ужо час біць яго,—разважаў далей Паўлюк.— Не! яшчэ вып'ю!

І зноў ён наліваў гарэлку.

— Ты ведаеш, прахвост, дзе ты ў мяне сядзіш? Во тут!—хацеў Паўлюк паказаць на сваё горла.

Аб'езчыку таксама было весела, і яны сабе сядзелі, цюкалі па чарцы, як найлепшыя сябры.

— Шварц! Шварц!—загукаў Паўлюк:—дай яшчэ паўкварты.—Паўлюку здавалася, што ён яшчэ ня надта сярдзіты.

— А ўсё-такі паб‘ю табе морду,—думаў Паўлюк, зрэдка паглядаючы на Сучынскага.

Яшчэ ня быў выпіты паўбутэлек, а Паўлюк ужо абнімаў аб‘езчыка і гаварыў:

— Хоць ты сабака, лайдак і сьвіньня, і хоць я паб‘ю такі тваё рыла, але я люблю цябе!

Паўзучы ад Шварца чуць не на чатырох, Паўлюк марматаў:

— Я!.. Я скручу такі яму галаву!.. Не цяпер, дык у чацьвер.

# ЗЬМЕСТ